**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 2 (770) 8 студзеня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

photo ByMedia. net

**То снег, то дождж!**





## Базавая велічыня ў Беларусі павялічаная да 180 тысяч рублёў

**Базавая велічыня ў Беларусі 1 студзеня 2015 года павялічаная са 150 тысяч да 180 тысяч рублёў. Гэта прадугледжана пастановай Савета міністраў № 1255 ад 29 снежня.**

Базавая велічыня — эканамічны паказчык, які вызначае абстрактную каштоўнасць пакупніцкай здольнасці грошай, не звязаную з ацэнкай якіх-небудзь пэўных матэрыяльных ці нематэрыяльных выгод.

Базавая велічыня была ўведзеная ў Беларусі з 2002 года, прымяняецца для вылічэння шматлікіх паказчыкаў і нарматываў у сферы працоўных праваадносін, вызначае памер штрафаў і пошлін.

*БелаПАН.*



## У Беларусі спыняецца выпуск у абарачэнне банкнот наміналам 50 рублёў

**1 студзеня 2015 года спыняецца выпуск у абарачэнне банкнот Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь наміналам 50 рублёў. Гэта прадугледжана пастановай праўлення Нацбанка ад 5 верасня 2014 года № 560, нагадалі ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў галоўнага банка краіны.**

Банкноты наміналам 50 рублёў застаюцца ў абарачэнні да 1 ліпеня 2015 года і абавязковыя да прыёму па намінальным кошце пры ўсіх відах плацяжоў усімі суб'ектамі гаспадарання, у тым ліку банкамі Беларусі.

1 ліпеня 2015 года банкі і суб'екты гаспадарання спыняць выдачу згаданых банкнот фізічным асобам, у тым ліку ў якасці здачы. Пры гэтым прыём банкнот наміналам 50 рублёў банкамі ад суб'ектаў гаспадарання будзе ажыццяўляцца да 1 верасня 2015 года.

Абмен банкнот наміналам 50 рублёў можна будзе рабіць без абмежаванняў і без збірання камісійнага ўзнагароджання ў любой суме, кратнай 100 рублям: з 1 ліпеня па 31 снежня 2015 года ўключна — у Нацбанку і банках краіны; з 1 студзеня па 30 чэрвеня 2016 года ўключна — у Нацбанку.

1 ліпеня 2016 года банкноты наміналам 50 рублёў выключаюцца з абарачэння і будуць лічыцца несапраўднымі.

*Марына Носава, БелаПАН.*

## Беларусь выплаціла яшчэ амаль 80 млн. долараў па крэдыце МВФ

31 снежня Беларусь у мэтах выканання сваіх абавязацельстваў па крэдыце стэнд-бай Міжнароднага валютнага фонду ажыццявіла чарговае пагашэнне асноўнага доўгу ў 54,7 млн. СДР (эквівалентнае 79,3 млн. долараў ЗША), паведамілі ў фінансавым ведамстве.

Пяць траншаў крэдыту ў межах праграмы стэнд-бай на 3,46 млрд. долараў Беларусь атрымала ад МВФ у 2009-2010 гадах. Асноўны пік выплат прыпаў на 2013-2014 гады, калі Беларусі давялося вярнуць большую частку пазыкі. Летась выплаты Беларусі па крэдыце МВФ перавысілі 1,6 млрд. долараў ЗША.

*Марына Носава, БелаПАН.*

## Віцебская вобласць

# Новы зігзаг кар'еры

■ Станіслаў Раманчук.

**Як і чакалася, у ходзе маштабных перастановак кадраў страціў сваю пасаду і 55-гадовы глава Віцебскай вобласці Аляксандр Косінец.**

Праўда, у адрозненне ад іншых сваіх больш пажылых калег, ён атрымаў новае прызначэнне і ўзначаліў прэзідэнцкую Адміністрацыю. На сваёй пасадзе ў Прыдзвінні энергічны доктар медыцынскіх навук адпрацаваў крыху больш шасці гадоў і даволі рана яшчэ ў 37 гадоў стаў прафесарам хірургіі, а потым працаваў рэктарам медуніверсітэта, потым віцэ-прэм'ерам урада. Падчас сваёй працы ў вобласці запомніўся фенаменальнай памяццю і здольнасцямі яркага прамоўцы, а вось падначаленым ставіў напружаныя і часта проста нерэальныя задачы, любіў агучваць павышаныя абавязацельствы, каб рэгіён займаў лідзіруючыя пазіцыі ў Беларусі. Незадоўга перад адстаўкай А. Косінец зрабіў справаздачу аблвыканкама аб развіцці Віцебшчыны летась і параўнаў з подзвігам, зробленае за 5 апошніх гадоў працаўнікамі АПК. Аднак на ўзроўні ўрада ягоная палітыка ў сельскай гаспадарцы, тая ж праграма "Чыстае поле" востра крытыкаваліся, а фінансавы стан многіх гаспадарак няпросты. Прэзідэнт таксама быў незадаволены правалам планаў мадэрнізацыі "Віцебскдрэва", падыходамі да развіцця АПК, але яго дзелавыя якасці адзначыў і прапанаваў новае назначэнне. Дарэчы, магчыма, былы глава вобласці збіраўся вярнуцца ў сталіцу, бо ён не адмовіўся ад зямельнага ўчастка ў Драздах і пабудаваў для сваёй сям'і прыгожы шыкоўны жылы дом.

## Пастаўскі раён

# Такія розныя ўчынкі

■ Кастусь Александровіч

**У рэальным жыцці адны людзі вядуць нікчэмны лад жыцця, іншыя ж суайчыннікі жывуць і раскрываюцца зусім па-іншаму.**

Вось і ў Пастаўскім раёне напрыканцы года адбыліся два розныя здарэнні. Спачатку ў святочную ноч Божага нараджэння ў мястэчку Дунілавічы адзін з мясцовых жыхароў вырашыў дзіўным чынам разабрацца са сваймі крыўдзіцелямі. Як ні дзіўна, у такой ролі апынуліся супрацоўнікі мясцовага сельсавета, якія не пакідалі яго ў спакоі, выклікалі і заклікалі завязаць з частымі выпіўкамі. На падпітку гэты выпівоха разбіў акно на першым паверсе будынка, прынёс з дому саляркі і спрабаваў падпаліць памяшканне. На шчасце, з гэтай задумы мала што атрымалася, а зламысніка пакараюць па ўсёй строгасці закона. А ўжо днём на пад'ездзе да райцэнтра на коўзскай дарозе зляцела ў кювет машына аднаго з урачоў мясцовага пагранічнага шпіталя. На бяду, побач знаходзіўся штучны вадаём, куды на хуткасці звалілася легкавушка і перавярнулася. Ад немінуемай гібелі гэту сям'ю выратаваў таксама жыхар Пастаў, які ехаў следам па аўтадарозе. Мужны гараджанін не раздумваў доўга, ён кінуўся ў лядзяную ваду, нырнуў у салон і дапамог дарослым выбрацца са смяротнай пасткі. Таксама пастаўчаніну ўдалося адшпіліць ад спецкрэсла і дастаць шасцімесячнага дзіцяця, якое наглыталася вады і толькі цудам не загінула. У той дзень на дапамогу прыбыў і рэанімабіль з абласнога цэнтра, кваліфікаваныя ўрачы пастараліся выратаваць жыццё малога чалавечка. За геразім і мужнасць пры выратаванні людзей вырашана прадставіць гараджаніна да дзяржаўнай узнагароды.

## Полацкі раён

# З крэсла мэра ў віцэ-прэм'еры

■ Чэслаў Якубовіч.

**Яшчэ не было ў навейшай беларускай гісторыі такога выпадка, каб на пасадзе аднаго з намеснікаў прэм'ер-міністра апынулася жанчына.**

Перад тым, як кабінет былога віцэ-прэм'ера па сацыяльных пытаннях А. Тозіка заняла старшыня Наваполацкага гарвыканкама 54-гадовая Наталля Качанава, на нафтаграду на працягу тыдня хадзілі розныя чуткі, што іх мэра некуды забяруць і перавядуць кіраваць нават вобласцю. Такія размовы ўзнікалі і раней, але розныя варыянты далейшай кар'еры Качанавай не спраўджваліся. На гэты раз абаяльная і энергічная жанчына, сапраўды, пакінула сваю пасаду і пераехала працаваць у Мінск. Дарэчы, усё ранейшае жыццё Наталлі Іванаўны звязана з родным краем, ды і нарадзілася яна ў самым старажытным горадзе краіны ў простай рабочай сям'і. Там яна актыўна займалася спортам, марыла стаць выхавацелькай дзіцячага сада. А так атрымалася, што пасля заканчэння тагачаснага Наваполацкага політэхнічнага інстытута стала інжынерам і працяглы час працавала на прадпрыемстве "Водаканал". У далейшым яе лёс прывёў у службу ЖКГ Полацка, яна стала ў горадзе курыраваць пытанні будаўніцтва і жыллёва-камунальнай гаспадаркі, трывала авалодала англійскай мовай, скончыла яшчэ Акадэмію кіравання. На працягу 7 апошніх гадоў Н. Качанава з'яўлялася главой аднаго з самых індустрыяльных гарадоў краіны, а зараз ёй прыйдзецца ўзваліць на свае плечы няпросты блок пытанняў развіцця сацыяльнай сферы ў маштабах усёй Беларусі.

### Надвор'е ў Глыбокім www. rp5ru

| | Серада 07.01.15 | | | | Чацвер 08.01.15 | | | | Пятніца 09.01.15 | | | | Субота 10.01.15 | | | | Нд.11.01. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -12 | -12 | -10 | -12 | -11 | -10 | -8 | -6 | -4 | -2 | -2 | -2 | -3 | -1 | -3 | -6 | -4 | 0 | -1 |
| Ціск | 759 | 760 | 760 | 759 | 758 | 755 | 752 | 747 | 739 | 730 | 728 | 728 | 729 | 732 | 735 | 735 | 729 | 726 | 728 |
| Вільготнасць | 86 | 90 | 78 | 84 | 80 | 69 | 85 | 92 | 99 | 98 | 100 | 96 | 96 | 96 | 94 | 99 | 99 | 95 | 93 |
| Вецер м/сек | 1 Ю-В | 1 Ю | 2 Ю | 6 Ю | 7 Ю | 7 Ю | 7 Ю-З | 8 Ю-З | 9 Ю | 5 Ю-З | 7 З | 6 З | 3 С-З | 6 С-З | 5 С-З | 3 Ю-З | 9 Ю | 6 З | 7 З |

# Аб самым надзённым

## МАШТАБНЫЯ ПЕРАСТАНОЎКІ ВА ЎРАДЗЕ БЕЛАРУСІ ПРАЙШЛІ ПАСЛЯ "ЧОРНАЙ ВАЛЮТНАЙ ПЯТНІЦЫ" ПАД НОВЫЯ ВЫБАРЫ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**З цягам часу і большасць з нас псіхалагічна прывыкне да новага курсу нацвалюты. Таксама грамадству, верагодна, трэба рыхтавацца да новага закручвання гаек, узмацнення адміністрацыйных мер і палачнай дысцыпліны, на што падштурхоўвае новы Дэкрэт № 5. Улады ў стане ўзмацніць і надалей адміністрацыйны кантроль за ўзроўнем цэн, барацьбу супраць розных спекулянтаў, "всякого рода жульё".**

У адрозненне ад простых беларусаў, вышэйшае кіраўніцтва краіны на каталіцкіх калядных канікулах не адпачывала. Беларускі лідар, напэўна, канчаткова расчараваўся ў сваіх старых кадрах і не стаў карыстацца правілам, што "коней на пераправе не мяняюць". Да чарговых прэзідэнцкіх выбараў ( як быццам у лістападзе сёлета) засталося ўжо меней года і яшчэ да навагодніх святаў Беларусь абляцела навіна аб маштабных зменах на ўзроўні ўрада і адразу ў трох абласцях краіны, а таксама на шэрагу буйнейшых айчынных прадпрыемстваў. Кіруючы фінансава-эканамічны ўрадавы блок змянілі кардынальна, як-ніяк адразу адбыліся перастаноўкі 26 упраўленцаў высокага рангу.

Відавочна і тое, што кіраўнік дзяржавы скарыстаўся momантам і адправіў у адстаўку главаў урада і Нацбанка, трох віцэ-прэм'ераў, сярод іншых міністраў эканомікі і адукацыі, хоць апошняга ніяк нельга аднесці да ліку вінаватах у "валютнай паніцы" і фактычна прайшоўшай дэвальвацыі беларускага рубля. Як вядома, кіраваць беларускім урадам стаў вопытны Андрэй Кабякоў, ён на працягу 10 гадоў працаваў у ліку намеснікаў прэм'ер-міністра. Па меркаванні аўтарытэтных спецыялістаў, вельмі ўдалы выбар Паўла Калаўра на пасаду главы айчыннай банкаўскай сістэмы.

Ва ўрадзе ўдалося застацца вопытнаму перамоўшчыку з Крамлём і моцнаму гаспадарніку Уладзіміру Сямашка, але яго крыху панізілі, бо раней займаў больш важкую пасаду першага віцэ-прэм'ера ўрада. Такія вялікія перастаноўкі прайшлі неўзабаве пасля заслухоўвання на вышэйшым узроўні справаздачы ўрада РБ аб бягучай дзейнасці. На гэтым пасяджэнні прама гаварылася, што айчынная эканоміка нясе велізарныя страты ад складанай сітуацыі ў Расіі і абвалу расійскага рубля. Той жа былы прэм'ер М. Мясніковіч публічна казаў перад звальненнем, што мы страцілі летась з-за гэтага мінімум 700 млн. долараў.

Яшчэ да новай "харчовай вайны" з Расіяй наша краіна з-за прасеўшай расійскай валюты, хоць і павялічыла продаж суседзям харчавання, але таксама недалічылася за 3 месяцы яшчэ 160 млн. долараў. Простыя беларускія грамадзяне перад навагоднімі святамі пахваляваліся, пабегалі па абменных пунктах банкаў, у паніцы сталі раскупляць тавары, апасаючыся росту цэн. Як ні круці, але нашы ўлады вымушаны былі ў выніку збегу дрэнных абставін усё ж правесці дэвальвацыю беларускага рубля, хоць фактычна пра гэта маўчаць.

Толькі замежных грамадзян спачатку бянтэжаць лічбы ў абменніках, дзе курс пакупкі валют большы сумы, за якую яна прадаецца. Аднак касір потым возьме з іх яшчэ дадатковы 30-працэнтны збор пры набыцці долараў-еўра. Праўда, А. Лукашэнка падкрэсліў пры агучванні прозвішчаў новых упраўленцаў, што ніякімі "надзвычайнымі" мерамі такі крок не выкліканы. І сапраўды, пры створанай у нас жорсткай мадэлі вертыкалі ўлады ўсё павінна быць пад кантролем. Адзінае, што многія кадры цяпер усведамляюць, што найбольш праблем тоіць у сябе стан беларускай эканомікі, калі нашы дарагія тавары становяцца неканкурэнтназдольнымі нават на расійскім рынку.

Таксама пасля такіх вось маштабных перастановак кіруючых кадраў у Беларусі не варта чакаць ніякай змены сацыяльна-эканамічнага курсу. Нязменнай засталася ідэалагічная вертыкаль у выбарны год і без сумненняў народу давядуць, як трэба, у мазгі, што ад цяперашняга дабра не трэба адмаўляцца, а бягучыя цяжкасці часовыя, тым болей, што ў нас няма ніякіх войн і Майданам нават і не пахне. Аднак зразумела, усім нам сёлета будзе жыць няпроста. У 2015 годзе Беларусі належыць найбольлей пад 4,8 млрд. долараў заплаціць па замежных даўгах. А вось айчынныя золатавалютныя рэзервы толькі каля 6 млрд. USD, новаму ўраду РБ прыйдзецца прасіць у першую чаргу зноў Маскву нам дапамагчы, даць новыя крэдыты.

З цягам часу і большасць з нас псіхалагічна прывыкне да новага курсу нацвалюты. Таксама грамадству, верагодна, трэба рыхтавацца да новага закручвання гаек, узмацнення адміністрацыйных мер і палачнай дысцыпліны, на што падштурхоўвае новы Дэкрэт № 5. Улады ў стане ўзмацніць і надалей адміністрацыйны кантроль за ўзроўнем цэн, барацьбу супраць розных спекулянтаў, "всякого рода жульё".

Перад гэтым па краіне ўжо прайшла, як вядома, серыя часовага закрыцця не толькі інтэрнэт-магазінаў, але і вядомых крам нават раскручаных брэндаў, не кажучы ўжо пра прыпыненне дзейнасці нелаяльных інтэрнэт-сайтаў. Па вялікім рахунку, сапраўды, у Беларусі нічога дзесяцігоддзямі не змяняецца, мы ганарымся сваёй міфічнай стабільнасцю, сваёй харчовай бяспекай (хоць цэны на ежу вышэйшыя, чым у суседзяў). Новы ўрад стане выконваць у першую чаргу адну з чарговых паступіўшых каманд заставіць усіх у год выбараў працаваць "как положено".

## Дзень за днём

**Масавыя перастаноўкі кіруючых кадраў адбыліся з-за праблем на айчынным фінансавым рынку. Летась беларускі рубль дэвальвіраваў на 25 % афіцыйна і на 50 % рэальна. Перадnavагодні гандлёвы ажыятаж у Беларусі крыху дапамог падразгрузіць склады, але 9 нашых прадпрыемстваў мясамалпрама засталіся "неўязнымі" ў Расію. Па ўзроўню заробкаў краіна вярнулася ў сярэдзіну 2010 года. З 1 студзеня базавую велічыню ( для выплат дапамог, штрафаў) паднялі на 20 % да 180 тысяч рублёў. Да восені сёлета зробяць платнымі ўчасткі дарог Жлобін-Гомель і Мінск-Мікашэвічы. Беларусам дазволілі выпісваць у адным рэцэпце па 2 лякарствы.**

# Важнейшыя навіны свету

**Ізраіль.** Пасля нападзення палесцінскіх снайпераў армія краіны нанесла наземныя ўдары і правяла паветраную бамбардзіроўку сектара Газа з баевікамі руху ХАМАС.

**Інданезія.** За год краіна страціла трэці па ліку самалёт аэробус А320-200 кампаніі AirAsia са 162 пасажырамі на борце, адзін з авіялайнераў збілі сепаратысты ў небе над Данбасам.

**Японія.** Лідара правячай Ліберальна-дэмакратычнай партыі Сіндза Абе новы парламент 328 галасамі падтрымкі зноў перавыбраў прэм'ер-міністрам краіны.

**Украіна.** Рэзка негатыўную рэакцыю Крамля выклікалі адмена краінай свайго пазаблокавага статусу і намеры цеснага збліжэння з блокам НАТО ў ваеннай сферы.

**Расія.** Нязменны глава Беларусі А. Лукашэнка ў Маскве выказаў упэўненасць, што ён выйграе прэзідэнцкія выбары 2015 года, нават калі ўвесь свет будзе супраць гэтага.

**Літва.** Прэзідэнт краіны Даля Грыбаўскайтэ публічна адмовілася ад паездкі ў Маскву на святкаванне ў маі 70-годдзя Перамогі СССР над гітлераўскай Германіяй.

**Расія.** Глава Рассельгаснагляду РФ С. Данкверт заявіў, што ветэрынарныя службы Беларусі не прымаюць мер па ўхіленні прычын абмежаванняў паставак яе няякаснай прадукцыі.

**Італія.** З парома "Норман Атланцік", які загарэўся ў моры ля Грэцыі, удалося выратаваць 473 пасажыраў і членаў экіпажа, аднак яшчэ 10 чалавек загінулі падчас рэйсу.

**Перу.** Улады краіны эвакуіравалі цэлую вёску з цяжкадаступных мясцін Амазонкі пасля нападзення на яе ўзброенага лукамі і стрэламі племя абарыгенаў туземцаў Мачо-Піра.

**КНДР.** На тэрыторыі краіны нарэшце закончылася афіцыйная 3-гадовая жалоба па Кім Чэн Іру, якi памёр ад сардэчнага прыступу, але культ ягонай асобы захаваўся так доўга.

**ЗША.** У абмежаваным пракаце ў 200 кінатэатрах краіны кінакампанія Soni Pictures усё ж паказала свой камедыйны фільм "Інтэрв'ю" пра выдуманае пакушэнне на лідара КНДР.

**Расія.** Нягледзячы на мора і порты, цэны на рыбу на Далёкім Усходзе рэзка выраслі, мяса ва Уладзівастоку з Кітая па даступных для людзей цэнах з прылаўкаў практычна знікла.

**Украіна.** Міжнародная плацежная сістэма Visa спыніла працу з расійскімі банкамі ў анексаваным Крыме, куды перасталі хадзіць украінскія паязды і аўтобусы.

**Іспанія.** Адной з першых іспанская кампанія Seat пакінула расійскі аўтарынак, бо ў Расіі продажы нават самых танных аўтамабіляў Lada знізіліся за год болей чым на 16 %.

**Германія.** Сусветнае антыдопінгавае агенцтва (WADA) пачала праверку фактаў з фільма тэлеканала 1 ARD пра масавыя (99 %) ужыванні допінгу расійскімі лёгкаатлетамі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Брэст.** Падчас першай рабочай паездкі новы прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў назваў адной з асноўных праблем Беларусі вымушаную няпоўную занятасць насельніцтва.

**Мінск.** Толькі наша ўнутраная эканамічная палітыка, як заявіў экс-глава Нацбанка РБ С. Багданкевіч, прывяла да празмернай залежнасці ад Расіі і да новага эканамічнага крызісу.

**Мінск.** Чыста "рытуальнымі" назваў перамены ва ўрадзе і ў шэрагу міністэрстваў Беларусі фінансавы аналітык Вадзім Іосуб, бо ніякай змены эканамічнага курсу не прадбачыцца.

**Светлагорск.** З цяжкімі траўмамі ног і хрыбта даставілі ў бальніцу начальніка ДАІ горада, на якога раніцай наляцеў на пешаходным пераездзе 41-гадовы кіроўца на "Мерседэсе".

**Мінск.** З-за закрыцця санслужбамі ў снежні 278 крам, як заявіла кіраўнік Асацыяцыі розніцых сетак Т. Закжэўская, яны страцілі 200 млрд. рублёў, а 12 тыс. людзей – заробкі.

**Шклоў.** За ўдзел у махінацыях з закупкамі бычкоў і атрыманне хабару ў памеры 20 тысяч долараў былы начальнік райсельгасхарча атрымаў 14 гадоў турмы з канфіскацыяй маёмасці.

**Мінск.** У выхадны дзень падчас палявання на тэрыторыі вобласці атрымаў агнястрэльнае раненне і памёр на месцы здарэння суддзя Вярхоўнага суда Беларусі Віктар Ракіцкі.

**Мінск.** Таблічкай "Республика Белоруссия" для нашай дэдегацыі на саміце АДКБ, як абурыўся паэт У. Някляеў, Крэмль ясна абазначыў свае планы адносна Беларусі.

**Магілёў.** Пасля адстаўкі з пасады главы вобласці Пётр Руднік стаў хутка гендырэктарам буйнога праблемнага прадпрыемства "Магілёўхімвалакно", там завал з мадэрнізацыяй.

**Мінск.** Хоць і называе А. Лукашэнка палітыку РФ "бязмозглай", як заявіў палітолаг Ю. Дракахруст, але Крэмль не будзе рызыкаваць і спрабаваць "паставіць яго на месца".

**Пінск.** У цяжкім стане даставілі ў бальніцу 37-гадовага гараджаніна-рыбака, які заснуў ля вогнішча на беразе ракі Піна і атрымаў моцныя апёкі ног і 30 % плошчы цела.

**Мінск.** Папа Рымскі Францыск прыедзе ў Беларусь, як пацвердзіў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, калі будзе афіцыйнае запрашэнне ўлад і згода Праваслаўнай царквы.

**Бабруйск.** З кожным годам сітуацыя ў беларускім спорце, як заявіў адзін з лідараў ФК "Белшына" М. Букаткін, усё больш змрочная, клубы бяднеюць не толькі ў футболе.

**Мінск.** Адзін толькі беларускі тэлеканал "РТР-Беларусь", які кантралюе кампанія СТБ, не паказаў навагодняе віншаванне А. Лукашэнкі, замест яго далі выступленне Пуціна.

**Гродна.** На грані банкрутства апынуўся ФК "Нёман", яго даўгі выраслі амаль да 20 мільярдаў рублёў, клуб не выплаціў прэміі ігракам яшчэ за сезон 2013 года, 18 з іх падалі ў суд.

# З 1 студзеня мінімальны стаж для пенсіі па ўзросце павялічаны




■ БелаПАН

**1 студзеня ўступіў у сілу ўказ прэзідэнта № 570 «Аб удасканаленні пенсійнага забеспячэння».**

**Дакумент прадугледжвае павелічэнне мінімальнага стажу працы для прызначэння пенсіі па ўзросце і пенсіі за выслугу гадоў з 10 да 15 гадоў працы з выплатай абавязковых страхавых узносаў у бюджэт дзяржаўнага пазабюджэтнага фонду сацыяльнай абароны насельніцтва.**

**Гэтая** мера не распаўсюджваецца на ўразлівыя катэгорыі грамадзян, для якіх фарміраванне працяглага стажу аб'ектыўна абцяжарана (шматдзетныя маці, маці інвалідаў з дзяцінства, інваліды з дзяцінства). Для іх захоўваецца мінімальны стаж працы 5 гадоў.

Для вылічэння пенсіі па ўзросце за кожны поўны год стажу работы звыш 35 гадоў у мужчын і 30 гадоў у жанчын прадугледжана павелічэнне пенсіі на 1% сярэднямесячнага заробку, але не менш чым на 0,7% сярэдняй зарплаты работнікаў у краіне, якая прымяняецца для карэкціроўкі фактычнага заробку пенсіянера.

З 1 студзеня 2016 года пенсіі асобам, якія дасягнулі пенсіённага ўзросту, павялічваюцца на 0,1%, 0,2%, 0,3%, 0,4%, 0,5% сярэднямесячнага заробку адпаведна за кожны год стажу работы звыш 40 гадоў па 45-ы год уключна ў мужчын і звыш 35 гадоў па 40-ы год уключна ў жанчын.

Лімітавая велічыня сярэдняй зарплаты, улічваемай пры вылічэнні пенсіі асобам, якія маюць стаж працы 36 гадоў і больш у мужчын і 31 год і больш у жанчын, павялічваецца да пяціразовай.

Прадугледжана таксама прызначэнне сацыяльнай пенсіі грамадзянам, не сфармавалася мінімальнага працоўнага стажу, неабходнага для прызначэння працоўнай пенсіі па ўзросце, не раней дасягнення ўзросту 65 гадоў для мужчын і 60 гадоў для жанчын. Пры гэтым дзеючыя нормы прызначэння сацыяльных пенсій захоўваюцца для сацыяльна неабароненых катэгорый грамадзян - дзяцей-інвалідаў, інвалідаў, у тым ліку інвалідаў з дзяцінства, дзяцей, якія страцілі карміцеля.

Пры вылічэнні працоўнай пенсіі ўводзіцца абавязковае ўжыванне дадзеных аб зарплаце, зафіксаваных у сістэме персаніфікаванага ўліку плацельшчыкаў і ўзносаў.

Павялічваецца лімітавая велічыня сярэдняй заработнай платы з чатырохкратнай да пяціразовай для выплаты абавязковых страхавых узносаў у дзяржаўны пазабюджэтны фонд сацыяльнай абароны насельніцтва для працадаўцаў і працоўчых грамадзян.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Новы глава вобласці Мікалай Шарстнёў пасля зацвярджэння на пазачарговай сесіі аблсавета дэпутатаў заявіў, што галоўнае цяпер захаваць працоўныя калектывы.

**Наваполацк.** Урад Беларусі зноў абавязаў высокадаходнае прадпрыемства ААТ "Нафтан" пералічыць дадаткова 215 млрд. рублёў у дзяржаўны фонд нацыянальнага развіцця.

**Віцебск.** На закрытым у 2013 годзе з-за ўспышкі АЧС свінакомплексе "Лучоса" правялі біяпробы новага пагалоўя, гатовы памяшканні для размяшчэння 8600 галоў свіней.

**Мёры.** Абласная гандлёвая інспекцыя падчас праверкі "Мясной лаўкі", закусачнай "Піцэрыя", магазіна "Дары пыроды" выявіла пратэрмінаваныя прадукты, пустыя полкі.

**Віцебск.** Калектыў ветакадэміі шакіравала забойства ў інтэрнаце 24-гадовага студэнта 3-га курса з Пінска яго маладзейшым суседам па пакоі ў ходзе сваркі пасля выпіўкі разам.

**Бешанковічы.** На тэрыторыі базы адпачынку "Крупеніна" ў адным з карпусоў адкрылі філіял аддзялення медыцынскай рэабілітацыі абласнога дыягнастычнага цэнтра.

**Докшыцы.** Упрыгожыў раённы цэнтр яшчэ адзін адкрыты тут новы сучасны і прыгожы будынак, у якім справіла наваселле мясцовае прадстаўніцтва "Белдзяржстраху".

**Паставы.** За кошт абласнога бюджэту ў раённым цэнтры і ў Гарадку да канца года пабудуюць два дамы сямейнага тыпу для шматдзетных сем'яў і дзяцей-сірот, якія засталіся без апекі бацькоў.

**Глыбокае.** У гарадскім Доме культуры прайшоў чарговы злёт маладых спецыялістаў, у 2014 годзе на працу ў раён прыехалі больш 170 дыпламаваных юнакоў і дзяўчат.

**Наваполацк.** У горадзе адкрыўся яшчэ адзін буйны гандлёвы цэнтр "Мелочи жизни" плошчай 2000 м2 з таварамі для дома, дачы, адпачынку, рыбалкі і для аўтааматараў.

**Браслаў.** На базе адпачынку "Дрывяты" Нацпарку "Браслаўскія азёры" адбыўся сумесны з латышамі ацэначны семінар па стварэнні міжнароднай прыродаахоўнай тэрыторыі.

**Віцебск.** У абласным цэнтры адкрыўся ўнікальны музей шакаладу, у якім адначасова могуць выстаўляцца да 100 розных твораў і карцін, намаляваных айчынным шакаладам.

**Дунілавічы.** П'яны мясцовы жыхар, каб "адпомсціць" работнікам сельскага савета за быццам празмерную ўвагу да сваёй персоны, ноччу спрабаваў падпаліць яго будынак.

**Віцебск.** Усе работнікі мясцовай бройлернай фабрыкі са стажам працы больш года атрымалі навагоднія падарункі, кожнаму па 7,5 кг прадуктаў уласнай вытворчасці.

**Віцебск.** На цырымоніі ўшанавання ігракоў і трэнераў ФК "Віцебск" глава горада Віктар Нікалайкін паабяцаў клубу максімальную падтрымку, каб замацавацца ў вышэйшай лізе.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# У Беларусі пад канфіскацыю трапілі 2270 аўто нецвярозых кіроўцаў

## Гэта на 30% менш, чым было ў мінулым годзе

«Прыкладна 2270 кіроўцаў паўторна затрымліваліся за кіраванне ў нецвярозым стане цягам першых адзінаццаці месяцаў 2014 года. Гэта прыблізна на 30-33% менш, чым было летась», — паведамілі ў прэс-службе рэспубліканскай Дзяржаўтаінспекцыі.

На думку ДАІ, канфіскацыя аўтамабіля за кіраванне ў нецвярозым стане «дае станоўчы вынік», бо людзі сталі менш ездзіць на машынах пасля ўжывання алкагольных напояў.

Імаверна, што не ўсе паўторна затрыманыя ўжо канчаткова страцілі свае аўто — справы асобных аматараў нецвярозай язды суды яшчэ не паспелі разгледзіць. Але, як паказвае практыка, захаваць аўтамабіль ва ўласнасці ў такіх кіроўцаў шанцаў няма.

*Паводле Еўрарадыё*



# Патрабаванні да аўтамабільнай аптэчкі зменены з 1 студзеня

**1 студзеня ўступіла ў сілу пастанова Міністэрства аховы здароўя «Аб устанаўленні пералікаў аптэчак першай дапамогі, аптэчак хуткай медыцынскай дапамогі, укладанняў, якія ўваходзяць у гэтыя аптэчкі, і вызначэнні парадку іх камплектацыі» № 80 ад 4 снежня 2014 года.**

**Пералік**

**укладанняў, якія ўваходзяць у аптэчку першай дапамогі для абсталявання аўтамабіля**

| № п/п | Найменне | Адзінка вымярэння | Колькасць |
|---|---|---|---|
| 1 | Амонія раствор 10% – 1мл № 10<br>ці 10% – 10 мл (40 мл) | упакоўка<br>флакон | 1<br>1 |
| 2 | Ёда спіртавы раствор 5% – 10 мл (40 мл) ці<br>5% – 1 мл №10 | флакон<br>упакоўка | 1<br>1 |
| 3 | Бінты нестэрыльныя:<br>5 м х 5 см<br>5 м х 5 см | упакоўка<br>упакоўка | 2<br>2 |
| 4 | Бінты стэрыльныя: 5 м х 10 см | упакоўка | 1 |
| 5 | Бінт медыцынскі эластычны нестэрыльны трубчаты №1,3,6 | упакоўка | 1 |
| 6 | Вата гіграскапічная стэрыльная 50,0 | упакоўка | 1 |
| 7 | Жгут Эсмарха, які спыняе кроў | упакоўка | 1 |
| 8 | Лейкапластыр бактэрыяцыдны:<br>2,5 х 7,2 см<br>4 х 10 см (6 х 10 см) | упакоўка<br>упакоўка | 3<br>1 |
| 9 | Лейкапластыр шпулечны 1 х 500 см (2 х 500 см) | упакоўка | 1 |
| 10 | Нажніцы тупаканечныя 14 см | упакоўка | 1 |
| 11 | Пакет гіпатэрмічны для ахалоджання | упакоўка | 1 |
| 12 | Пальчаткі латэксныя назіральныя нестэрыльныя № 8 (L) | пара | 1 |
| 13 | Сурвэтка стэрыльная памерам 16 х 14 (45 х 29 см) №1 | упакоўка | 4 |

Цяпер аўтаўладальніку не абавязкова мець у аптэчцы валідол і нітрагліцэрын (ужываецца пры інфарктах, інсультах, высокім ціску).

З гэтага часу ў вас павінны быць:

• дзве ўпакоўкі нестэрыльных бінтоў: памерам 5х5 см і 5х10 см;

• стэрыльная вата (50 г);

• пластыры бактэрыяцыдныя: 3 шт. памерамі 2,5х7,2 см і 1 шт. — 4 х10 см або 6х10 см;

• пластыр у катушцы, памерам 1х500 см альбо 2х500 см.

Як і раней, у аптэчцы павінны быць 4 упакоўкі стэрыльных сурвэтак (16х14 см або 45х29 см), раствор амонія, раствор ёду, жгут і астуджальны гіпатэрмічны пакет.

Аптэчкі камплектуюцца вытворцамі або аўтаўладальнікамі самастойна.

Нагадаем, што камплектацыю аптэчкі могуць праверыць падчас тэхагляду.

*Паводле tut.by*

# Работнікі МНС выратавалі на Вілейскім вадасховішчы пяць рыбакоў

**Групу рыбакоў выратавалі ўночы на 3 студзеня работнікі МНС на Вілейскім вадасховішчы.**

Як паведамляе сайт МНС, пяць рыбакоў, рухаючыся да берага возера каля вёскі Рабынь Вілейскага раёна, пачулі пад сабой трэск лёду, таўшчыня якога складала 6-7 сантыметраў. Апынуўшыся ў экстрэмальнай сітуацыі, рыбакі набралі па тэлефоне нумар 101. Просьба аб дапамозе паступіла ў 01.37. Пакуль ратавальнікі ехалі да месца здарэння, дыспетчар цэнтра аператыўнага кіравання Вілейскага раённага аддзела па НС заставаўся на сувязі з рыбакамі і кансультаваў іх, як дзейнічаць, каб не праваліцца пад лёд.

Супрацоўнікі МНС даставілі рыбакоў на бераг пры дапамозе ратавальных дошак і вяровак. Усе выратаваныя — жыхары Мінска. Пасля агляду фельчарам высветлілася, што ў шпіталізацыі яны не маюць патрэбы.

Ратавальнікі-пажарныя тым часам нагадваюць, што, калі нулявая тэмпература трымаецца на працягу трох сутак, таўшчыня лёду памяншаецца на 25%.

*БелаПАН.*

# Мінімальная зарплата ў Беларусі павялічаная да 2 млн. 100 тыс. 100 рублёў

**З 1 студзеня мінімальная заработная плата (МЗП) у Беларусі складае 2 млн. 100 тыс. 100 рублёў.**

Гэты паказчык павышаўся год таму — 1 студзеня 2014 года МЗП была ўстаноўленая ў памеры 1 млн. 660 тыс. рублёў. У кастрычніку памер МЗП быў праіндэксаваны на 13% з улікам інфляцыі і склаў 1 млн. 841 тыс. 483 рубля.

Мінімальная заработная плата (месячная і пагадзінная) з`яўляецца дзяржаўным мінімальным сацыяльным стандартам у галіне аплаты працы. Наймальнік абавязаны прымяняць яго ў якасці ніжэйшай мяжы аплаты працы работнікаў.

4 жніўня 2014 года набыла моц новая рэдакцыя закона "Аб устанаўленні і парадку павышэння мінімальнай заработнай платы". У адпаведнасці з ёй памер пагадзінай мінімальнай зарплаты вызначаецца наймальнікам шляхам дзялення памеру месячнай МЗП на суадносіны разліковай нормы працоўнага часу каляндарнага года, устаноўленай для адпаведных катэгорый работнікаў наймальнікам, і колькасці месяцаў каляндарнага года.

Памер пагадзіннай МЗП змяняецца наймальнікам пры змяненні памеру месячнай мінімальнай зарплаты, у тым ліку ў сувязі з індэксацыяй МЗП. Пагадзінная МЗП прымяняецца ў дачыненні да работнікаў, аплата працы якіх праводзіцца на аснове пагадзінных тарыфных ставак (акладаў, службовых акладаў).

Калектыўным дагаворам можа быць устаноўлены іншы памер МЗП, але ён павінен быць не ніжэйшы за памер месячнай мінімальнай заработнай платы, устаноўленай у адпаведнасці з законам.

Работніку, у якога памер налічанай зарплаты ніжэйшы за памер МЗП, наймальнік абавязаны правесці даплату да ўзроўню гэтага паказчыка.

*Марына Носава, БелаПАН.*

# На трансляцыю па Віцебскай вобласці тэлеперадач «Ранішні Віцебск» і «Вячэрні Віцебск» выдаткуюць 5,4 мільярда рублёў

**Сяржук Серабро**

Галоўнае ўпраўленне ідэялагічнай работы, культуры і па справах моладзі Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта абвясціла тэндар на вытворчасць і трансляцыю на тэрыторыі ўсіх раёнаў Віцебскай вобласці тэлеперадач «Ранішні Віцебск» і «Вячэрні Віцебск»

На трансляцыю па Віцебскай вобласці тэлеперадач «Ранішні Віцебск» і «Вячэрні Віцебск» выдаткуюць 5,4 мільярда рублёў

Паводле ўмоў закупу ўсяго за 11 месяцаў 2015 года (з 3 лютага па 31 снежня) неабходна падрыхтаваць і данесці да тэлегледачоў Віцебскай вобласці 440 перадач.

Па папярэдняй ацэнцы кошт вытворчасці і тэлетрансляцыі складзе 5 400 128 000 рублёў, фінансаванне будзе праводзіцца з абласнога бюджэту.

Летась пераможцам падобнага тэндара стала тэлерадыёкампанія «Віцебск», якая пагадзілася падрыхтаваць і паказаць на працягу 8 месяцаў 2014 года 165 тэлеперадач за 2 000 000 000 рублёў. Цікава, што тады на конкурс паступіла толькі дзве прапановы, прычым другое было ад тэлерадыёкампаніі «Магілёў», якой патрабавалася на 50 000 000 рублёў больш.




# У Беларусі павялічана стаўка дзяржпошліны на допуск аўтамабіля да дарожнага руху

**Паводле інфармацыі Міністэрства па падатках і зборах, з 1 студзеня стаўкі транспартнай дзяржпошліны выраслі на адну-дзве базавыя велічыні. Так, дзяржпошліна для фізасоб за легкавы аўтамабіль масай не больш за 1,5 тоны зараз складае 3 базавыя велічыні (з 1 студзеня 2015 года базавая велічыня складае 180 тыс. рублёў), ад 1,5 да 2 тон — 6 базавых велічынь, ад 2 да 3 тон — 8 базавых велічынь, больш за 3 тоны — 11 базавых велічынь.**

За прычэп, які мае дазволеную максімальную масу не больш за 0,75 тоны, збор складае 2 базавыя велічыні, больш за 0,75 тоны — 11 базавых велічынь.

Для пенсіянераў па ўзросце, інвалідаў I ці II групы да стаўкі дзяржпошліны прадугледжаны паніжальны каэфіцыент 0,5.

Паніжальны каэфіцыент 0,5 да стаўкі дзяржпошліны таксама дзейнічае ў дачыненні да транспартных сродкаў, прызначаных для перавозкі небяспечных грузаў.

Дзяржпошліна не выплачваецца ў дачыненні да спецыяльна абсталяваных для выкарыстання інвалідамі транспартных сродкаў з ручным кіраваннем (адпаведны запіс павінен быць у тэхпашпарце) ці з прыладай для перамяшчэння непрацаздольных, крэслаў-калясак для інвалідаў. Ільгота дзейнічае ў дачыненні да транспартных сродкаў, атрыманых (набытых) праз органы па працы, занятасці і сацыяльнай абароне ў адпаведнасці з раней дзейным заканадаўствам, у дачыненні да машын, што выкарыстоўваюцца для аказання медыцынскай дапамогі, у тым ліку хуткай меддапамогі.

Ільгота распаўсюджваецца таксама на транспарт МНС, прызначаны для абароны насельніцтва і тэрыторый ад надзвычайных сітуацый прыроднага і тэхнагеннага характару, на транспартныя сродкі Мінабароны, МУС, КДБ, Дзяржпагранкамітэта, іншых войскаў і воінскіх фарміраванняў, Следчага камітэта.

Вызваляюцца ад выплаты дзяржпошліны транспартныя сродкі аўтамабільных перавозчыкаў, абавязаных выконваць аўтаперавозкі транспартам супольнага карыстання (паводле пераліку Міністэрства транспарту і камунікацый), а таксама транспарт для забеспячэння сацыяльнага абслугоўвання і аказання сацыяльных паслуг непрацаздольным і іншым катэгорыям грамадзян, што знаходзяцца ў цяжкай жыццёвай сітуацыі. На такія транспартныя сродкі ў адпаведнасці з заканадаўствам павінен быць нанесены надпіс "Сацыяльная служба".

*БелаПАН.*

# Поспех батлейкі ў Параф'янаве





**У Параф'янаўскім Доме культуры 4 студзеня з вялікім поспехам прайшла калядная батлейка, у якой выступілі дзеці з Параф'янаўскай парафіі імя Найсвяцейшай Дзевы Марыі.**

**Зміцер Лупач**

Да выступлення дзеці рыхтаваліся ад пачатку Адвэнту. Іх рыхтавалі сёстры, бацькі і настаўнікі. Прыгэтым у пастаноўцы маглі ўзяць удзел усе жадаючыя, нягледзячы на свае артыстычныя здольнасці. Як паведаміла сястра Марына Ескевіч: "Я як рыхтую сцэнкі, то бяру ўсіх дзяцей, мне не важна, маюць яны акторскія здольнасці або не. Галоўнае, каб яны змаглі выйсці на сцэну, выступіць перад бацькамі. Яны тады такія радасныя."

Адной з вядоўцаў на мерапрыемстве была Аксана Ючкавіч, якая нарадзілася і вырасла ў Параф'янаве. Зараз яна жыве і працуе ў Мінску, але не парывае сувязяў са сваёй сям'ёй і парафіяй, якую таксама можна назваць вялікай сям'ёй. Асаблівы ў Параф'янаве!

¬Я сама родам з гэтай парафіі. Сёння мяне запрасілі на ролю вядоўцы. Калісьці малой дзяўчынкай я таксама ўдзельнічала ў батлейцы, была пастушком, гэта была мая любімая роля. Потым дарасла да анёла, а ў 11 класе сыграла нават Маці Божую. Ну а зараз я ўжо толькі вядоўца.

Дзеці падрыхтавалі дзве сцэнкі: адна з іх была традыцыйнай батлейкай, а другая паказвала свята Божага Нараджэння ў 3000 годзе.

У першай сцэнцы дзеці паказалі як з'яўленне маленькага Анёла падчас калядных святаў змяняла сітуацыю да лепшага ў розных жыццёвых сітуацыях: ганлярка станавілася чэснай і не хацела прадаваць тухлай рыбы, бацька згаджаўся аддаць дачку за хлопца, якога яна кахала, муж-п'яніца станавіўся на шлях выпраўлення, паляўнічы пашкадаваў забіваць зайца…

У другой сцэнцы дзеці паказалі свята Божага Нараджэння праз тысячу гадоў. Падзеі адбываюцца ў Афрыцы, якая стала за гэты час перадавым кантынентам. Настолькі перадавым, што людзі забыліся на Бога, яны смяюцца з Заходняй Еўропы, якая ў іх вачах выглядае адсталай. Але якраз там людзі яшчэ не забыліся на Бога, там можна яшчэ знайсці Біблію. І ў рэшце Божае слова перамагае, афрыканцы разумеюць, што без Божага слова сэрца чалавека пустое і наогул няма сэнсу ў чалавечым жыцці.

Гледзячы па рэакцыі гледачоў, выступленне ім вельмі спадабалася. Ды і самім акторам таксама! Не забыліся на святочнай праграме і пра дарослых. Для іх таксама былі падрыхтаваныя конкурсы і загадкі. Трэбы было асвяжыць свае веды пра Святое Пісанне, узгадаць, якія калядныя спевы яны ведаюць, успомніць калядныя спевы сваіх продкаў. Апладысментамі гледачы сустрэлі выступ адной са сваіх парафіянак, якая не толькі ўзгадала старую каляду, але і праспявала яе на польскай мове. Шмат хто з прысутных гэты спеў падхапіў.

Ну а пасля гэтага ўсіх завёў айцец Войтэк з Докшыц, які запрасіў усіх артыстаў на сцэну на супольны танец. Дарэчы, да ўдзелу і ім запрашалі і дарослых. Было вельмі прыемна глядзець на радасных і шчаслівых дзяцей, якія танчылі на сцэне разам з сёстрамі і, вядома ж, айцом Войтэкам.

Але і на гэтым святочная праграма яшчэ не скончылася. Свята працягнулася ў фае Дома культуры, дзе разам танцавалі і дзеці, і моладзь, і дарослыя. Не адставалі ад іх і айцец Войтэк з сёстрамі. Было відаць, што свята ў Параф'янаве ўдалося.

Як паведаміў адзін з гледачоў Ян Вярэнька, які прыехаў на свята з Докшыц і прывёз з сабой дзяцей з суседняй парафіі: выхаванне залежыць ад дзіцячага ўзросту, як дзіця выхаваеш, так ён і вырасце. Калі з дзяцінства яму прывіць любоў да Бога, то ён будзе і надалей жыць паводле Божых наказаў. Бо ўжо ў дарослым узросце Богу і касцёлу будзе цяжэй даклікацца да яго сэрца.

А такія святы якраз і спрыяюць такому выхаванню. Задаволеным выступам дзяцей застаўся і пробашч парафіі ў Параф'янаве ксёндз Раман Мурзіч:

– Для мяне асаблівая радасна, што ўся парафія жыве святам Божага нараджэння, бо гэта радасць у сям'і, радасць у парафіі. Кожны ўдзельнічаў у сённяшнім свяце, нават малыя дзеці чыталі вершы з такім захапленнем, і дарослыя таксама ўдзельнічалі. Няхай гэтае свята Божага Нараджэння будзе для кожнага супакоем і радасцю і надалей.

Што ж, да гэтых словаў цяжка штосьці дадаць. Нам жа застаецца пажадаць маленькім артыстам удалага выступу ў Віцебску, які адбудзецца 9 студзеня.



# Жыхар Жукоўшчыны разам з сынам стварыў сямейную рэліквію

**Некалькі гадоў таму назад Язэп Квач за зіму разам з сынам вышылі на палатне свой радавод.**

**Зміцер Лупач**

Як кажа спадар Квач, гэта ідэя ўзнікла тады, калі сыну трэба было ў школе зрабіць радавод. Ім захацелася зрабіць штосьці арыгінальнае. І вось чатыры месяцы, ад асенніх да вясенніх канікулаў, яны вышывалі свой радавод на палатне.

Гаворыць Язэп Квач:

– У цэнтры самае магутнае дрэва наша – дуб, зямля пад белымі крыламі, пад буслямі, нашы нацыянальныя святыні: бел-чырвона-белы сцяг, Крыж Еўфрасінні Полацкай, дарэчы, дакладная копія, у маштабе паўтара зроблены, усё на камп'ютары. Гэта мы вышывалі з сынам усю зіму, чатыры месяцы.

Аўтар шэдэўру кажа, што радавод яны перавярнулі, продкаў паказалі зверху, як крону, бо яны ўжо ў небе, а дзяцей змясцілі знізу, у выглядзе жалудоў, якія дадуць новыя ўсходы. Дарэчы, у спадара Квача ўжо з'явілася ўнучка. Крона выкана80ная ў выглядзе абрысаў Беларусі.

Працягвае Язэп Квач:

– Я лічу – гэта мая сямейная рэліквія, я так лічу, што не дай Бог, які пажар, першае, што я вынес бы з хаты, гэта палатно, а ніякія грошы… Па-першае, чаму? Таму што тут усе мае продкі, вось тут з правай стараны – па беларускай лініі, а з левай – па ўкраінскай. Мая жонка – украінка.

Спадар Язэп працаваў настаўнікам у Жукоўшчыне. Зараз школу зачынілі, і ён працуе сацыяльным работнікам.


Язэп Квач

У акрузе яго добра ведаюць як краязнаўцу, этнографа, паэта. Ён родам з Глыбоччыны і ганарыцца тым, што з'ўляецца земляком і цёзкам Язэпа Драздовіча.

Язэпу Драздовічу ён прысвяціў свой верш, дакладней сказаць, амаль паэму, з якой мы пазнаёмім нашых чытачоў у бліжэйшых нумарах газеты.

Яшчэ спадар Квач стварыў свой уласны этнаграфічны музей, у якім сабраў розныя прадметы, якімі нашы продкі яшчэ зусім нядаўна карысталіся. Пра музей мы таксама распавядзём нашым чытачам больш падрабязна. Зараз Язэп Квач рыхтуе да друку вершы Віктара Сікоры, сына знакамітага садавода Івана Паўлавіча Сікоры.



■ НАДЗЕЯ КАЛІНІНА

# Прыватнік ці дзяржава: хто павінен вучыць беларусаў весці бізнэс?

**Беларускі бізнэс адчувае востры недахоп кваліфікаваных кадраў. Падчас апытанняў прадпрымальнікаў гэта праблема па важнасці апярэджвае пытанні падаткаабкладання і доступу да фінансаў.**

У апошні час рост беларускага прыватнага бізнэсу паскорыўся. Гэта прывяло да росту попыту на бізнэс-адукацыю і рэзкага павелічэння ліку кампаній, якія аказваюць паслугі ў гэтай сферы.

Па адзнаках Міністэрства эканомікі, аб'ём рынка бізнэс-адукацыі ў Беларусі дасягнуў 7,5-7,8 мільёнаў даляраў. Колькасць арганізацый, зацікаўленых у бізнэс-адукацыі, міністэрства ацэньвае больш за 83 тысячы. Гэта прыкладна 20% ад іх агульнага ліку.

90% рынка бізнэс-адукацыі сканцэнтравана ў Мінску.

Бурнае развіццё рынка бізнэс-адукацыі спарадзіла шэраг пытанняў, якія патрабуюць рэгулявання на заканадаўчым узроўні, адзначалі эксперты падчас нядаўняга круглага стала «Развіццё бізнэс-адукацыі ў краінах з пераходнай эканомікай», праведзенага Асацыяцыяй развіцця мэнэджменту.

Гаворка ідзе, у прыватнасці, пра стварэнне празрыстай для спажыўца сістэмы адзнакі якасці бізнэс-адукацыі і ўвядзення нацыянальнай акрэдытацыі. Сёння дзяржорганы разам з вядучымі ўстановамі бізнэс-адукацыі распрацоўваюць праект указу прэзідэнта, які закліканы зрабіць зразумелай сітуацыю на рынку.

Адным з праблемных пытанняў эксперты вылучаюць неабходнасць размежавання бізнэс-школ і трэнінгавых цэнтраў. Словазлучэнне «бізнэс-школа» гучыць больш самавіта, але каб звацца менавіта так, неабходна адпавядаць вызначаным стандартам.

— *Бізнэс-школа – гэта структура, у якой ёсць свае выкладчыкі, якія займаюцца доўгатэрміновымі дыпломнымі праграмамі… А трэнінгавы цэнтр праводзіць кароткія трэнінгі. Прайшоўшы адзін трэнінг, слухач неўзабаве высвятляе, што для атрымання новых кампетэнцый трэба прайсці яшчэ адзін, потым яшчэ. Бізнэс-школа сумяшчае ўсе гэтыя трэнінгі ў адну цэласную праграму,* — тлумачыць прэзідэнт Расійскай асацыяцыі бізнэс-адукацыі **Сяргей Мясаедаў**.




Актуальным пытаннем з'яўляецца і ўвядзенне сістэмы нацыянальнай акрэдытацыі для ўстаноў бізнэс-адукацыі. Яна неабходная, каб ацаніць, наколькі праграма адпавядае існым стандартам. У выпадку бізнэс-адукацыі стандарты вызначаюцца не толькі з пункту гледжання ўзроўню выкладчыкаў, але і з пункту гледжання іншых крытэраў, сярод якіх – кар'ерны рост выпускнікоў.

На сённяшні дзень адзінай бізнэс-школай у Беларусі, якая мае міжнародную акрэдытацыю, з'яўляецца Бізнэс-школа Інстытута прыватызацыі і мэнэджменту (ІПМ). Увядзенне нацыянальнай акрэдытацыі, адзначалася падчас круглага стала, дазволіць стварыць празрыстую сістэму адзнакі якасці працы айчынных бізнэс-школ, якія пакуль не могуць сабе дазволіць прайсці складаны працэс атрымання міжнароднай акрэдытацыі.

Яшчэ адно пытанне звязанае з вывядзеннем бізнэс-адукацыі з падпарадкавання Міністэрства адукацыі. Шматлікія эксперты лічаць, што дадзеную сферу павінна курыраваць Міністэрства эканомікі. Таму ёсць шэраг прычынаў: па-першае, бізнэс-адукацыя ладзіцца па некалькі іншых прынцыпах, чым традыцыйная адукацыя: тут важная не гэтулькі перадача ведаў, колькі групавая праца, накіраваная на развіццё крэатыўнасці і ўмення знаходзіць новыя рашэнні. Акрамя таго, слухачы сістэмы бізнэс-адукацыі працуюць галоўным чынам на прыватных прадпрыемствах, чыя дзейнасць знаходзіцца ў сферы інтарэсаў Міністэрства эканомікі.

Сёння Мінэканомікі гатова ўзяць на сябе функцыі дзяржаўнага рэгулятара ў бізнэс-адукацыі. Яно таксама прапануе выкарыстоўваць механізм дзяржзамовы на падрыхтоўку кіраўнічых кадраў для дзяржсектара, малога і сярэдняга бізнэсу.

— *У рамках дзяржзамовы навучанне будзе на 40% аплачвацца з дзяржаўнага ці мясцовага бюджэту, 30% будзе кампенсаваць арганізацыя, якая накіравала на навучанне працаўніка, і 30% будзе плаціць сам працаўнік,* — распавёў на круглым стале начальнік упраўлення навукі і інавацыйнай палітыкі Міністэрства эканомікі **Дзмітрый Крупскі.**

Ініцыятыва развіцця прававога поля для прадпрымальніцкай адукацыі цешыць гульцоў рынка. Аднак яны настойваюць на стварэнні роўных умоў працы для дзяржаўнага і прыватнага сектараў. У прыватнасці, лічаць не вельмі ўдалай ідэю падрыхтоўкі выкладчыкаў для бізнэс-школ у рамках дзяржаўных універсітэтаў, паколькі для працы ў бізнэс-школе неабходны кампетэнцыі, звязаныя не гэтулькі з перадачай ведаў, якія занадта хутка старэюць, колькі з мадэрацыяй, фасілітацыяй і разуменнем таго, як уладкованы бізнэс.

— *Дзяржаўныя гульцы спрабуюць дамагчыся прэферэнцый. Аднак для паўнавартаснага развіцця рынку паслуг трэба стварыць роўныя ўмовы для дзяржаўнага і прыватнага сектара. Беларускія кампаніі адчуваюць вострае запатрабаванне ў кіраўнічых кадрах. Дзяржаўны сектар бізнэс-адукацыі не ў стане прапанаваць неабходную якасць паслуг,* – лічыць генеральны дырэктар Бізнэс-школы ІПМ **Павел Данейка.**

Па меркаванні экспертаў, галоўным крытэрам якасці бізнэс-адукацыі, апроч незалежных акрэдытацый, з'яўляецца рынак.

– *Школа дзяржслужбы можа існаваць за кошт бюджэту, а бізнэс-школа павінна зарабляць сама. Школа бізнэсу, якая не можа сябе пракарміць, нічаму не навучыць,* – упэўнены Сяргей Мясаедаў.

Нагадаем, што ў кастрычніку Форум бізнэсу ў рамках праекта «Рэфорум» абмеркаваў найболей праблемныя моманты рэгулявання беларускага бізнэсу і вызначыў два прыярытэты, якія будуць прапанаваныя экспертам для далейшай распрацоўкі: абарона правоў прыватнай уласнасці (праблемы пазасудовага спісання грашовых сродкаў з рахункаў юрыдычных асоб па рашэнні дзяржаўных органаў; рэформа сістэмы судовых выканаўцаў; пазасудовая канфіскацыя маёмасці), а таксама бізнэс у экалогіі (праблема ўдзелу прыватнага бізнэсу ва ўтылізацыі адыходаў; эфектыўнасць дзейнасці прадстаўнікоў бізнэсу ў сферы экалогіі; неабходнасць прыцягнення новых актораў на рынак утылізацыі адыходаў).

# Літва перайшла на еўра: дзе і як памяняць рэшткі літаў на еўра

**З 1 студзеня ў Літве ўведзена агульная валюта Еўрапейскага саюза — еўра. Літва стала 19-м членам зоны еўра.**

Прэзідэнт краіны Даля Грыбаўскайце ў навагоднім віншаванні назвала ўвядзенне еўра «магчымасцю расці і быць сучаснай еўрапейскай дзяржавай, ставіць перад сабой новыя мэты і смела глядзець у будучыню».

Неўзабаве пасля апоўначы першыя банкноты еўра з банкамата ў цэнтры Вільні дастаў прэм'ер Альгірдас Буткявічус.

«Еўра будзе гарантам нашай эканамічнай і палітычнай бяспекі, дазволіць больш інтэнсіўна развіваць эканоміку, спрыяючы стварэнню новых працоўных месцаў і павелічэнню даходаў насельніцтва», – віншуючы жыхароў Літвы, сказаў прэм'ер.

«Сімвал літа Пагоня становіцца адным з знакаў сям'і еўра. Рыцар у даспехах з мечам і шчытом будзе адчаканены на манетах еўра», – дадаў ён.

У мерапрыемстве таксама прынялі ўдзел эстонскі прэм'ер Тааві Рыйвас, кіраўнік МЗС Латвіі Эдгар Рынкевіч, еўракамісар Віціяніс Андрукайціс, міністр фінансаў Рымантас Шаджус і кіраўнік праўлення Цэнтрабанка Літвы Вітас Васіляўскас. Яны таксама знялі па 10 еўра.

У літоўскіх кавярнях, рэстаранах і барах ноччу быў прадстаўлены спецыяльны безалкагольны кактэйль – еўра.

Літ быў «прывязаны» да еўра з 2002 года, таму Літва залежала ад палітыкі Еўрапейскага Цэнтрабанка, аднак не мела права голасу.

Ад 1 студзеня 2015 года літы ў Літве будуць абменьваць на еўра бясплатна:




• 6 месяцаў гэта можна будзе зрабіць ва ўсіх банкаўскіх аддзяленнях (манеты і банкноты);

• праз 6 месяцаў пасля ўвядзення еўра гэта можна будзе зрабіць у тых аддзяленнях банкаў, якія вызначыць Цэнтрабанк Літвы — прымаць будуць банкноты;

• на працягу 60 дзён з моманту ўвядзення еўра можна будзе абмяняць літы на еўра ў аддзяленнях Літоўскай пошты (манеты і банкноты);

• неабмежаваны час — у Цэнтрабанку Літвы.

*Delfi.lt*

# Назарбаеў зацвердзіў спрошчаны парадак знаходжання беларусаў у Казахстане

**Прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў ратыфікаваў пагадненне паміж Казахстанам і Беларуссю аб парадку знаходжання грамадзян на тэрыторыі дзвюх краін. Раней пагадненне ўхваліў Сенат парламенту Казахстана.**

Пагадненне ўстанаўлівае спрошчаны парадак знаходжання грамадзян Казахстана і Беларусі на тэрыторыі бакоў без абавязковай рэгістрацыі ў кампетэнтных органах на працягу 30 дзён.

Яго ратыфікацыя дасць магчымасць забяспечыць прававое рэгуляванне пытання.

Беларусь ратыфікавала пагадненне ў чэрвені 2014 года.

*telegraf.by*

# Урад Беларусі зацвердзіў план мерапрыемстваў па правядзенні Года моладзі

**Урад Беларусі зацвердзіў план мерапрыемстваў па правядзенні ў 2015 годзе Года моладзі. Адпаведны план зацверджаны пастановай Савета Міністраў нумар 1228 ад 23 снежня 2014 года, якая сёння афіцыйна апублікавана на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, паведамляе БЕЛТА.**

План уключае больш як 70 пунктаў. Тут і мерапрыемствы, прысвечаныя патрыятычнаму выхаванню моладзі, і прапагандзе здаровага ладу жыцця, развіццю масавага спорту, фарміраванню культуры бяспечнай жыццядзейнасці, падтрымцы маладых людзей, якія трапілі ў цяжкую жыццёвую сітуацыю.

Частка мерапрыемстваў будзе таксама накіравана на падтрымку творчай актыўнасці, выяўленне таленавітай і адоранай моладзі. Так, у прыватнасці, на будучы год запланавана правядзенне шэрага рэспубліканскіх конкурсаў, фестываляў, турніраў, дзе маладыя людзі змогуць праявіць сябе.

Асобная ўвага будзе ўдзелена арганізацыі занятасці, падтрымцы прадпрымальніцкай актыўнасці моладзі, фарміраванню кадравага рэзерву, а таксама рабоце з маладымі спецыялістамі. Акрамя таго, будзе прадоўжана і развіццё міжнароднага маладзёжнага супрацоўніцтва.

Згодна з пастановай, адказным за каардынацыю работы па выкананні рэспубліканскага плана мерапрыемстваў па правядзенні ў 2015 годзе Года моладзі, вызначана Міністэрства адукацыі.

Як паведамлялася, 16 кастрычніка Прэзідэнт Беларусі падпісаў указ аб аб'яўленні 2015 года Годам моладзі. Дакумент прыняты ў мэтах развіцця творчага, навуковага і прафесійнага патэнцыялу моладзі, яе актыўнага далучэння да правядзення сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў у Беларусі, выхавання пачуцця патрыятызму і грамадзянскай адказнасці ў маладых грамадзян.

На пачатак 2014 года колькасць моладзі ва ўзросце ад 14 гадоў да 31 года ў Беларусі складала 2,185 млн чалавек, або 23,08 працэнта агульнай колькасці насельніцтва краіны.

*БелТА.*

# Прыватныя Абвесткі

## Аўтамабілі на продаж:

Аўдзі-80, 1990г.в., 1,9Д, седан белы, выдатны стан.Т:+37533-320-21-00 (мтс)

Аўдзі-100, 1989 г/в, 2.0 ТД, 3500 у.а, торг, магчымы абмен. Тэл. 8-033-688-98-41

ВАЗ-2104, 1,3Б, белы, новая зімовая гума, ТА, страхоўка, добры стан, 1990г.в., 800у.а. Т.: 816-09-00(мтс)

ВАЗ-2107, 2005г.в. Т.: 899-76-80(мтс)

ВАЗ-21063, 1994г.в. Т.: 211-32-43(мтс)*

Опель-Вектра С, 2004г.в., механіка, прабег 128тыс.км, 1,8Б, эл\люстэрка, эл\падымальнікі, кандыцыянер, круіз, кантроль, падагрэў сёдлаў, супрацьугонка, гума зіма новая. Т.: 718-35-23(мтс)

Опель-Кадэт, 1991г.в., мона, 1.6Б, седан с\бежавы, можна ў бел. рублях. Т.: 596-96-74

Опель-Астра G, 2001г.в., 1,7ТДі, універсал зялёны металік, з Германіі, добры стан, ТА, страхоўка, торг. Т.: 394-11-22(мтс)

Опель-Вектра В, 1,6Б, 2000г.в., сіні металік, ідэальны стан, 5600у.а. Т.: 8-033-695-40-10(мтс)

Опель-Астра G, 2001г.в., універсал, 1,7ТДі, зялёны перламутр, 3г з Германіі, адзін гаспадар, вельмі добры стан, ТА, страхоўка, абмен на таннейшае аўто, торг. Т.: 394-11-22(мтс)

ФВ-Пасат В4, 1996г.в., Б, універсал, сіні металік, эл\пакет, кандыцыянер, зімовая гума, 3950у.а. Т.: 8-033-610-19-72(мтс)

ФВ-Пасат, 1987г.в., 1,6Д, добры стан, 1200у.а. Т.: 516-37-38

Рэно-Меган-Сцэнік, 1998г.в., не з РФ, 1,9ТДі.Т.:307-99-30(мтс)

Пежо-807, 2002г.в., выдатны стан. Т.: 8-029-816-44-11(мтс)

Мэрсэдэс-Ванео, 2004г.в., 1,7Д, максімальная камплектацыя, 6700у.а. Т.: 510-25-50

Таёта-Авенсіс, 2001г.в., седан, зялёны перламутр, МКП, АБС, ПБ, кандыцыянер, камп'ютар, эл\пакет, сігналізацыя, ц\з, г\у, СД, падагрэў сёдлаў, велюр, новая АКБ і гума, вельмі добры стан. Т.: 519-00-83(мтс)

КІА-Сэпхія, 1997г.в., 1,5Б, бардовы, выдатны стан, 3100у.а., торг. Т.: 8-029-772-71-32

Міцубісі-Спэйс-Стар, 2001г.в., 1,3Б, чорны металік. Т.: 8-029-814-62-59(мтс)

## Куплю машыны, трактары, прычэпы, матацыклы:

**Іншамарку ў любым стане, з любымі праблемамі.**УНН 223800390881. **Т: 8-029-210-31-82, 8-029-641-88-36(в)** (мтс)+

## Прадам трактары, прычэпы, матацыклы, лодкі:

Лодку ПВХ «Калібры КМ-300», лодачны рухавік «Тахацу-3,5» 4-тактны, кошт па дамове. Т.: 8-033-613-14-00 (Аляксей)

Трактар Т-25, МТЗ-80, плуг. Т.: +37529-795-36-83, +37529-207-19-28(мтс), +37529-694-66-64

Трактар МТЗ-80, у добрым стане, новая гума. Т. 8-029 540-99-19

## Здам:

Здам легкавы прычэп 3,0х1,5х1,7, можна на гадзіну, можна без тэнта, кат.В. Т.: 8-033-638-77-22+5

## Прадам запчасткі:

Да Аўдзі-80, А4, А6, А 8, В4, С4; БМВ-Е-39; Кіа-Кларус, Шума, Сэпхія; Нісан-Прэм'ера, Альмера, Мікра, Х-Трэйл Т-31; Опель-Вектра В, Амега В, Астра G, F, Франтэра В, Корса; ФВ-Гольф-ІІ, ІІІ, IV, Джэта, Пасат В 3,4,5,6, Т-4; Пежо-106, 206, 307, 405, 406, 605, 806; Мазда-626, 2,6;Форд-Мандэа, Транзіт, Фокус, Гэлаксі, Ф'юнан; Рэно-19, Меган, Кліа, Лагуна1,2,-Сцэнік,Эспайс, Сандэра, Маскат, Лотан; Таёта-Карола,Ярыс; Вольва-440,460, ВольваV40;ХС70; Дэо-Нубіра, Леганза, Маціз; Мерседэс-W 201,W202, 203, W210, Віта; Сітраен-Сакса, ZX,Эвазіон, Ксара; Сеат-Таледа, Ібіца, Кардоба; Міцубісі-Лансер, Галант, Міцубісі ASX; Фіат-Пунта 2,3, Марэа; Крайслер-Неон; Хундай-Поні, Лантра; Шэўрале-Нубіра, 2006г.в: Ровер-214, 216, 1993г.в. Асартымент запчастак пастаянна змяняецца і папаўняецца мадэльны шэраг аўтамабіляў. Т.: 292-99-33(мтс), 338-71-83(в), 8-029-210-31-82 (мтс) *Ліц. №22380\0037920ад23.03.2004г.- выд.ПолацкімРВК да 18.05.2013г. ІП ФіліпсонС.І.- УНП223800390881*+

**Аўтазапчасткі ў г. Глыбокае.** Аўтакрэслы дзіцячыя. Магазін «Бегемот», вул. Леніна, 87. Запчасткі да л\а і мікрааўтобусаў, АКБ, маслы, кузаўныя запчасткі, шыны. УНН 391053348, пасв. № 391053348 ад 19.06.2009г. Т:8029-712-93-34(мтс)***

**Аўтазапчасткі ў Шаркоўшчыне**. Аўтакрэслы дзіцячыя. Новы магазін «Бегемот». Запчасткі да л\а і мікрааўтобусаў. АКБ. Маслы, кузаўныя запчасткі, шыны. УНН 391-54834 Пасв №391054834 ад 13.08.2014г. Т.: 8-029-876-07-17(мтс), 8-02154-6-04-62***

Шыны новыя, усесезонка, пара, для Нівы, 185\75\R16. Т.:8029-286-65-32(мтс), 8-029-892-87-21(мтс)***

ВАЗ-2101-2107 па запчастках. Кузаў ВАЗ-2107, 1993г.в., выдатны стан. Запчасткі да Масквіча-412. Т.: 8033-358-80-18(мтс)

Опель-Аскона, Опель-Кадэт, Трактар Т-26. Усё па запчастках. Т.: 812-48-08(мтс)*

Опель-Вектра, 1991г.в., седан, 1.8Б, мона, па запчастках. Т.: 8-029-213-84-13

ВАЗ-2106; Форд-Транзіт, Фіеста, Сіера; Міцубісі-Галант; Аўдзі-80 1984г.в.; Фіат-Ціпа; Опель-Кадэт. Усё па запчастках. Т.: 811-94-72

4 шыпаваныя колы на дысках да Мэрсэдэс-Спрынтар або LT, 450у.а.Т:8029-772-71-32

Л\дыскі і гуму R13 да Опель. Тэл. 8-029 542-76-36

## Прадам нерухомасць:

Недабудаваны катэдж 2-павярховы, без даху, Глыбокае, пер. Кірава. 48, 22000у.а., торг.Т:714-60-41(мтс)+1

Кватэру 2-пакаёвую, 3-і паверх 4-павярховага дома, 65м², 2 гаражы каля дома, Глыбокае, кошт па дамове. Т.:894-81-47(мтс)

Кватэру 4-пакаёвую. Т.: 8-029-599-43-68 (мтс)+7

Дом, в. Ластавічы, вул. Прыазёрная, 1, гаспабудовы, 6500у.а. Т.: 831-44-06(мтс)

Кватэру 1-пакаёвую ў Беразвеччы, 19000у.а., без торга. Т.: 770-60-43(мтс)*

Кватэру 3-пакаёвую ў 3-павярховым панэльным доме ў р-не Міра, 3-і паверх, 66м², еўрарамонт, гарачая вада ў ацяпляльны перыяд, кватэра вялікая, светлая, вельмі цёплая, уцепленая лоджыя 6м², 55000 у.а., добры торг. Тэрмінова. Т.: 216-80-93(мтс), 294-67-96(мтс)*

Гаражы цагляныя 4,8х5,5м і 5,0х5,5м, адзін пад мікрааўтобус, р-н СПТУ, праведзена асвятленне. Т.: 294-67-96(мтс)*

Дом у Глыбокім, газавае ацяпленне, вада, каналізацыя, тэлефон, гараж, лазня, гаспабудовы, 75.3 аг. пл. Тэл. 8-029-298-70-01

Кватэру 2-пакаёвую ў цэнтры Докшыц, зроблены рамонт, побач школа, аздараўленчы цэнтр, банк, пошта, крамы. Т.: 8-033 610-93-82

Кватэру 2-пакаёвую ў раёне Беразвечча, 58 кв.м. Т. 8-033-601-68-71

Дом у в. Запруддзе, 10 км ад Глыбокага, участак 25 сотак, 2.750 у.а. Тэл. 8-033-601-68-71

Паўдома з выгодамі і ўчасткам 4 соткі, вул. Прамысловая. Т.: 249-41-04+9

Кватэру 2-пакаёвую ў Шаркоўшчыне, рамонт. Т.: 522-43-84(мтс)

Дом на вываз. Т.: 215-35-84(мтс)**

Кватэру 3-пакаёвую ў а\г Крулеўшчына, з усімі выгодамі, у 4-павярховым доме, на другім паверсе. Т.:516-67-52***

## Здыму:

Маладая сям'я здыме жыллё, 1-2-пакаёвую кватэру з выгодамі, на працяглы тэрмін. Парадак і своечасовую аплату гарантуем. Т:+37533-324-68-57*

Маладая сям'я здыме жыллё з усімі выгодамі з наступным выкупам, разгледзім усе варыянты. Т. 8-029-856-49-62

Здыму 3-пакаёвую кватэру або прыватны дом з мэбляй, нядорага, да 200у.а. Парадак і аплату гарантую. Т.: 8-029-843-39-94, 8-025-768-12-54

## Здам:

У гандлёвым цэнтры «Мерыдыян» здаецца ў арэнду памяшканне 40м². Т.: 211-27-29(мтс)**

Здам у арэнду м-н «Бегемот», вул. Леніна, 87, другі паверх у арэнду, можна часткова. Т.: 8-029-714-00-74 (мтс), 8-029-757-37-70***

## Мэбля на продаж:

Распродаж кухань. Акцыя. Зніжкі. Ад 4,7 млн.руб. Выбар варыянтаў і колераў. АКЦЫЯ - выцяжка ў падарунак. УНН 391054834 выд.13.08.2014г Глыбоцкім РВК Т: 8-029-286-65-32 (мтс), 8-029-892-87-21(мтс)***

Стол кухонны белы б\у. Т.: 811-03-20(мтс)**

Дыван на падлогу 2,0х3,0 б\у, 1,35х2,0м, б\у. Т.: 811-03-20(мтс)****

Спальню б\у (ложак 2-спальны, шафа 4-дзвёрная, камод, 2 тумбачкі), 2млн.руб. Т.: 308-84-51(мтс)







Кухні, шафы-купэ і інш. мэблю па індывідуальных праектах, выезд дызайнера бясплатна, дастаўка, усталёўка. УНП 391171040 ЧТПУП Сціліус. Тэл. 8-033-637-16-67, 8-029-518-56-10

Новую канапу і 2 мяккія крэслы, 4.500.000 рублёў. Тэл. 8-025-96-72-721 Шаркоўшчына

## Прадам аўдыё-відэа, музычныя інструменты:

Музычны цэнтр «Соні». Т.: 8-029-517-46-14 (мтс)+

Касетны відэа-плэер «Самсунг» з касетамі, мульцікі. Т.: 811-03-20(мтс)**

DVD-плэер BBK. Т.: 811-03-20(мтс)**

Прайгравальнік з пласцінкамі.Т.: 811-03-20(мтс)**

Вінілавыя пласцінкі 70-80гг. Т.: 811-03-20(мтс)****

Аўтамагнітолу і дынамікі новыя. Тэл. 8-029 542-76-36

## Прадам камп'ютар і камплектуючыя:

ЖК манітор 22", 100у.а. Т.: +37533-377-00-08

Манітор 19", нядорага. Т.: 8-033-372-45-47

## Прадам катлы, сантэхабсталяванне:

Катлы новыя «Камфорт» для ацяплення, Люксы, нядорага. Распродаж, ад 5,7млн.руб,КСТ-12,5.Камфорт-Плюс на дровах, апілках, брыкеце. . УНН 391054834 выд.13.08. 2014г. Глыбоцкім РВК.Т.:8029-286-65-32(мтс), 8-029-892-87-21(мтс)***

## Прадам будматэрыялы:

Унітаз белы, у зборы, новы. Т.:8-029-286-65-32(мтс), 8-029-892-87-21(мтс)***

## Прадам тэлефоны:

Nokia-6700 С, выдатны стан, 70 у.а. Т.:816-09-00(мтс)+

Смартфон Samsung GTS-5230, як новы. Т.: 811-03-20(мтс)****

## Бытавая тэхніка і газавае абсталяванне на продаж:

Халадзільнік б\у, добры стан, 800тыс.руб. Т.: 8-033-658-36-94(мтс)



* ЗАЎВАГА: калі ў абвестцы не пазначаны код горада, уладальнік тэлефоннага нумару знаходзіцца ў Глыбоцкім раёне.

# Гэта я ўсіх сабраў у Белавежскай пушчы

## (Да 80-годдзя Станіслава Шушкевіча)

**Споўнілася 80 гадоў Станіславу Станіслававічу Шушкевічу, вядомаму беларускаму вучонаму ў галіне радыёфізікі, дэпутату Вярхоўнага Савета 12-га і 13-га склікання, доктару фізіка-матэматычных навук (1970), прафесару (1972), заслужанаму дзеячу навукі і тэхнікі (1982), члену-карэспандэнту Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (1991), першаму кіраўніку незалежнай Беларусі (1991-1994), аднаму з трох удзельнікаў падпісання Белавежскіх пагадненняў аб юрыдычным замацаванні распаду СССР і стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў (1991).**



**Кліменцій Кожан**, краязнаўца, выпускнік Глыбоцкай педвучэльні. *м. Германавічы.*

Нарадзіўся Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч 15 снежня 1934 года ў Мінску, у сям'і беларускага пісьменніка Станіслава Пятровіча Шушкевіча і пісьменніцы Алены Раманоўскай. Бацькі паходзілі са збяднелай шляхты. Дзед Пётр меў добрую гаспадарку. Ён быў садоўнікам і пасечнікам. Усё ў яго было дагледжана – і жывёла, і агарод. Нават падчас вайны меў уласнага каня. Другі дзед Людвіг жыў у Мінску. На месцы цяперашняй філармоніі стаяла яго хата. Калі Станіславу Шушкевічу было два гады, памёр дзед Людвіг, а бацьку забралі як "ворага народа". Працавалі ў агародзе, саджалі бульбу, агародніну. Калі гарэў Мінск, думалі, што хата дзеда Людвіга згарыць. Уцякалі па Барысаўскім тракце. Але вецер перамяніўся, хата ўцалела. Вярнуліся назад. Бабуля знайшла парсючка за паўкіламетра, па галасе пазнала яго.

Бацьку Станіслава Шушкевіча забралі за "нацдэмаўшчыну". Бацька і маці былі членамі Саюза пісьменнікаў СССР. Пісьменніцкі білет бацькі канфіскавалі пры арышце напрыканцы 1936 года, калі быў асуджаны як "вораг народа". У 1954 годзе бацька быў рэабілітаваны і ў 1956 годзе вярнуўся з Сібіры ў Мінск.

### Асноўныя вехі працоўнай і палітычнай дзейнасці С.С.Шушкевіча

1956 год – скончыў фізіка-матэматычны факультэт БДУ; 1956-1959гг – аспірант Інстытута фізікі АН БССР; 1959-1960гг – малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута фізікі АН БССР; 1961-1967гг – старшы інжынер, галоўны інжынер, загадчык сектара лабараторыі ядзернай фізікі БДУ; 1967-1969гг – прарэктар у Мінскім радыётэхнічным інстытуце; 1969-1971гг – прарэктар па навуковай працы Мінскага радыётэхнічнага інстытута; 1971-1973гг – выканаўца абавязкаў прафесара, прафесар, выканаўца абавязкаў загадчыка кафедры ядзернай фізікі БДУ; 1973-1990гг – загадчык кафедры ядзернай фізікі БДУ; 1986-1990гг – прарэктар па навуковай працы БДУ; 1989-1991гг - народны дэпутат СССР; 1990-1996гг – дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь; 1990-1991гг – першы намеснік старшыні Вярхоўнага Савета РБ 12 склікання, член Канстытуцыйнай камісіі; 1991-1994гг – старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР у 1989 годзе С.С.Шушкевіч быў высунуты супрацоўнікамі кафедры ядзернай фізікі фізічнага факультэта БДУ, якую ён у той час узначальваў. У 1994 годзе балатаваўся на пасаду Прэзідэнта Беларусі, але саступіў у першым туры.

У 1998 годзе С.С.Шушкевіч аднавіў Беларускую сацыял-дэмакратычную грамаду і ўзначальвае яе да цяперашняга часу.

С.С.Шушкевіч – заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі Беларускай ССР (1982), лаўрэат прэміі Савета Міністраў СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988), лаўрэат прэміі Яна Новака-Езяранскага (2006), дактарат honoris causa Люблінскага Каталіцкага Універсітэта Яна Паўла II. У 2010 годзе ўзнагароджаны летувіскім Ордэнам Вітаўта Вялікага. С.С.Шушкевіч – актыўны сябра Таварыства беларускай мовы.

У сувязі з 80-годдзем С.С.Шушкевіча ў газетах надрукаваны гутаркі з юбілярам. Карэспандэнтка "Комсомольской правды в Белоруссии" (4-10 снежня 2014 г., №227) Тацццяна Шахновіч адзначае, што ў 1991 годзе ў Віскулях Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч аказаўся сярод падпісантаў Белавежскага пагаднення, увайшоў у гісторыю героем, цяпер яго рады прымаць у многіх краінах свету.

Нядаўна С.С.Шушкевіч вярнуўся з Бухарэста, хутка адправіцца ў Вену, пазней – у Баку і Стамбул. Ён выкладае ў Варшаўскім універсітэце, чытае лекцыі па ўсяму свету. Выглядае бодра. За яго знешнім выглядам і харчаваннем назірае жонка Ірына, з якой былі палітык жыве 38 гадоў, з таго часу, як закахаўся і ажаніўся на сваёй студэнтцы-выдатніцы. Гэта быў яго другі шлюб. Ірына на 18 гадоў маладзейшая за свайго мужа. Калі яны ажаніліся, Ірыне было 23 гады.

**Т. Шахновіч:** "Станіслаў Станіслававіч, усё-такі важна аказацца ў патрэбны час у патрэбным месцы, так?"

**С. Шушкевіч:** "Дык гэта я ўсіх сабраў у Белавежскай пушчы. Трэба было, каб нам далі больш нафты і газу, зіма 1991-1992 гадоў была цяжкай.



**Прэзідэнт Украіны Леанід Краўчук (злева), Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч (у цэнтры) і Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын (2 справа) пасля падпісання Пагаднення аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў у Белавежскай пушчы**

Ды і Кебіч намякнуў:"Слухай, у цябе такія добрыя адносіны з Ельцыным, пакліч яго да нас у пушчу, на паляванне!"

Я стварыў сабе куміра, прызнаюся: я па сённяшні дзень чалавек Ельцына. Няхай ён дазваляў сабе выпіць лішняе, затое ніколі не здраджваў сваім цвярозым рашэнням…

20 кастрычніка 1991 года М.С.Гарбачоў сабраў кіраўнікоў савецкіх рэспублік у рэзідэнцыі Нова-Агарова і выдаў кожнаму новы праект Дагавора аб трансфармацыі СССР у канфедэрацыю. Да гэтага яго заклікалі яшчэ ў 1989 годзе на З'ездзе народных дэпутатаў СССР, і тады гэта было магчыма. Але момант быў упушчаны. Я к таму часу разумеў сітуацыю ў СССР не горш, чым М.С.Гарбачоў і кінуў яму элементарны папрок: "Вы называеце канфедэрацыяй дзяржаву, фактычна блізкую да ўнітарнай, той жа СССР, у якім Палітбюро ЦК КПСС заменена прэзідэнтам". Я разумеў, што мне будзе няёмка дакладваць гэты праект нашаму Вярхоўнаму Савету. Таму я сказаў: "У вас у дакуменце не выконваюцца слоўнікавыя азначэнні".

Ельцын выказаўся больш рэзка за мяне, я нават зайздросціў, што ён можа сабе дазволіць так сказаць. Маўляў, ты не ахці шурупіш і навязваеш нам сваё няправільнае меркаванне. Міхаіл Гарбачоў тады падняўся і пайшоў. Мы з Ельцыным адправіліся яго шукаць, па дарозе я запрасіў Барыса Мікалаевіча да нас у пушчу на паляванне. А з Гарбачовым выпілі па келіху армянскага каньяку і вярнуліся на паседжанне Дзяржсавета забываць крыўды".

**Т. Шахновіч:** "Вы былі ў руля ў часы пераменаў, пры пасадзе і магчымасцях, але, кажучы з ельцынскай прамалінейнасцю, усё прафукалі. Так, пры вас Беларусь стала свабоднай краінай, але далей вы не змаглі справіцца нават з вярхоўным саветам."

**С. Шушкевіч:** "Так, я лічыўся першай асобай дзяржавы, але правоў у мяне было нуль. Маім рашэннем нічога не магло быць прынята, наогул нічога. Я мог толькі ўнесці прапанову. Але далей яе павінен быў адобрыць ці Прэзідыум Вярхоўнага Савета, ці сам Вярхоўны Савет. І там, і там я быў старшынёй, але і там, і там я быў у меншасці".

**Т. Шахновіч:** "Вы гаворыце: нічога не мог. Але вы нават не спрабавалі!"

**С. Шушкевіч:** "Дакладна так мяне абвінавачваў і Беларускі народны фронт. Але тая большасць, галоўным чынам камуністычная, якая выбрала мяне ў старшыні не страху пасля падаўлення жнівеньскага путчу, з задавальненнем хутка і выгнала б мяне з крэсла старшыні, калі б я толькі даў ім падставу. Я быў першай асобай у дзяржаве, але нават не мог выбраць сабе намесніка! У нас быў загадчык замежным аддзелам, які не ведаў ні адной мовы. Я яго замяніў, пасля чаго Прэзідыум напомніў мне, што такое можна рабіць толькі на аснове рашэння Прэзідыума.

Так, мяне многія абвінавачваюць у бяздзейнасці. Але ніхто не хоча зразумець, што ці мы будуем прававую дзяржаву і жывём па закону, ці робячы адступленні ад закона, апраўдваем усіх іншых парушальнікаў законаў. Я быў як яўрэйскі хлопчык, у якога пытаюцца, ці ўмее ён іграць на скрыпцы. Хлопчык адказвае: "Не спрабаваў, але думаю, што ўмею". Вось і я іграў на скрыпцы, як умеў".

**Т. Шахновіч:** "Якімі рашэннямі вы ганарыцеся?"

**С. Шушкевіч:** "Зацвярджэннем беларускіх нацыянальных герба і сцяга, ратыфікацыяй Белавежскага пагаднення, вывадам ядзернай зброі, прыданнем статусу дзяржаўнай беларускай мове, рашэннямі па пытаннях раздзяржаўлення, прыватызацыі, правоў прыватнай уласнасці на зямлю.

Але ў чэрвені 1993 года было пастаўлена пытанне аб даверы мне… Таму што мне ўдавалася многае рабіць не так, як хацела … большасць у Вярхоўным Савеце.

І я прыкінуў: так, дакладна, мяне зараз заваляць. Многія дэпутаты радасна пацілалі рукі і нават адправіліся ў буфет адзначыць маю канчыну. А я – хоп, паставіў пытанне аб даверы мне на галасаванне. Шасці галасоў для выражэння недаверу не хапіла. Добрыя паўтара дзясятка затрымаліся ў буфеце, і я закрыў паседжанне і распусціў Вярхоўны Савет на канікулы.

Але я выдатна разумеў, што гэта пачатак маёй канчыны, таму што ў наступны раз яны збяруцца і ўсёроўна прагаласуюць супраць мяне. І тым не менш, я паспеў арганізаваць візіт Біла Клінтана ў Беларусь. Для камуністаў гэта было страшней мардабою. Што ў нас толькі не адбывалася. Прыходзіць да мяне шэф КДБ і гаворыць: мы не ў стане забяспечыць бяспеку прэзідэнта ЗША, адмяняйце візіт! Я запрашаю амерыканскага пасла, і амерыканскі бок бярэ пытанні бяспекі прэзідэнта ЗША ў час візіту ў Беларусь на сябе…"

**Т. Шахновіч:** "Вы не ўтойваеце, што заўсёды любілі выпіць. З Ельцыным часта сядзелі за сталом?"

**С. Шушкевіч:** "Ніякага панібрацтва паміж мной і Ельцыным не было. Я шчыра паважаў яго. Аднойчы ў Алма-Аце мы сядзелі побач. Чалавек Каржакова (начальнік аховы Ельцына) з аднаго боку ўвесь час падліваў Ельцыну ў келіх чай, той нюхаў і выліваў. А чалавек Назарбаева з другога бокуналіваў Ельцыну каньяк, і ён, задаволены, выпіваў. Я ўсё бачыў, але ў працэс не ўмешваўся. Потым Ельцын пачаў няўдала падымацца і нахіліўся ў мой бок. Я яго незаўважна падтрымаў. Ён падазваў Гайдара, той праз хвіліну вярнуўся з карабчакай у руках, і Ельцын уручыў мне наручны гадзіннік "Слава" з гравіроўкай "От президента России", сказаўшы: "За поддержку в трудную минуту".

А месяцы праз тры я прыехаў у Маскву на сустрэчу кіраўнікоў дзяржаў, і ўсім, у тым ліку і мне, Ельцын падарыў такі ж гадзіннік. Такім чынам, у мяне ён цяпер у двух экзэмплярах.

**Т. Шахновіч:** "Пра вашу пенсію ходзяць легенды. Няўжо да цяперашняга часу атрымліваеце 30 цэнтаў у месяц?"

**І. Шушкевіч:** "На аўтобусны талончык не хапае – гэта дакладна!"

**С. Шушкевіч:** "Затое я магу зарабляць лекцыямі. Неяк мяне з жонкай запрасілі ў турнэ па Паўднёвай Японіі, за сем публічных лекцый я добра зарабіў. Вярнуўшыся, памяняў сваё "Жыгулі" на "Нісан" японскай зборкі, а жонцы купіў новую японскую "Мазду-3". Ведаеце, у штаце Каларада ў Амерыцы, куды перабраўся сям'я майго аднакласніка, калі чалавек дасягнуў 80 гадоў, яму дабаўляюць да пенсіі 300 даляраў, маўляў, патрэбен больш старанны догляд. Вось і я па амерыканскіх мерках ужо дажыў да такой даплаты. Да маіх трох тысяч беларускіх рублёў пенсіі былі б вельмі дарэчы 300 долараў."

**Т. Шахновіч:** "Але за 80 гадоў, напэўна, скалацілі **нядрэнны капітал?"**

**С. Шушкевіч:** "У савецкі час я добра зарабляў. З 1971 года, як універсітэцкі прафесар і доктар навук я атрымліваў 450 руб. у месяц, плюс 50 руб. за загадванне кафедрай, плюс 10 месяцаў у годзе паўстаўкі – 225 руб. за навуковую працу па гаспадарчых дагаворах. Усяго 725 руб. у месяц, з улікам адлічэнняў на рукі прыходзілася каля 600 рублёў. Але я ніколі не капіў. Калі ў людзей згарэлі ўклады на кніжках, на маёй было ўсяго 5 руб. Я мог ісці з работы дадому і па дарозе растраціць усю зарплату. Але жонка не сварылася!"

**Т. Шахновіч:** "Гэта таму, што вы ёй брыльянты куплялі?"

**І. Шушкевіч:** "Мне гэтага не трэба. Стась у сэнсе пакупак бесталковы: купляў тэхніку для лецішча, усякія гаспадарчыя інструменты. Ды тыя ж цвікі! Ён жа ўкраў усяго скрынку, астатнія прыйшлося купляць за свае (смяецца)".

**С. Шушкевіч:** "А брыльянтаў у мяне больш, чым у яе! Ордэн, якім мяне ўзнагародзіла Літва, упрыгожаны трыма маленькімі брыльянтамі. А медаль, які мне падарыў арабскі шэйх і які мы захоўвалі разам з рознай дробяззю, аказаўся залатым… А жонка – дык яна ж не адрозніць біжутэрыю ад каштоўнасцей. Але не думайце, што я ўшчамляю яе ў правах, у нас парытэт: свае брыльянты я аддаў ёй на захаванне…" *(Поўную версію інтэрв'ю чытайце на сайце Kp.by).*

У газеце "Народная воля" ад 12 снежня 2014 года №97 (3940) таксама змешчана інтэрв'ю С.С.Шушкевіча ў сувязі з яго 80-годдзем. Карэспандэнт Алесь Сіві гутарыў са Станіславам Станіслававічам Шушкевічам аб яго бацьках і дзядах, жаніцьбе, захапленнях… без палітыкі… Гутарка адбывался на кватэры юбіляра, у яго працоўным кабінеце.

На пытанне: ***"Сёння вы задаволены тым, як прайшло ваша жыццё?"***, Станіслаў Шушкевіч адказаў так: *"Калі з радыёаматара я стаў доктарам навук і членам-карэспандэнтам Нацыянальнай акадэміі навук у галіне радыёфізікі, то, відавочна, што чагосьці дасягнуў у навуцы. Калі мяне і сёння запрашаюць з лекцыямі ў найвядомейшыя ўніверсітэты свету, то лагічна думаць, што я і сёння не зусім ардынарны прафесар і застаюся патрэбным. Калі з "сына ворага народа" стаў першай асобай дзяржавы, значыцца, нешта ўсё-такі ўдалося і ў палітыцы. І, нарэшце, калі напісаная мною кніжка амаль у 500 старонак надрукавана на беларускай, рускай і польскай мовах (а зараз рыхтуецца да выдання на англійскай мове ў ЗША), то не выключана, што і гэта камусьці патрэбна. І я ганаруся усім гэтым.*

*Няма падстаў лічыць, што ў мяне мог быць лепшы жыццёвы шлях!.."*

Раю ўсім знайсці гэтыя інтэрв'ю і пазнаёміцца з жыццём, навуковай і палітычнай дзейнасцю Станіслава Станіслававіча Шушкевіча, першага кіраўніка незалежнай Беларусі.

## Усміхніцеся

Контрольная. Преподаватель внимательно следит за учениками, и время от времени выгоняет тех, у кого заметил шпоры. В класс заглядывает зауч: — Что, контрольную пишем? Здесь наверное полно любителей посписывать! Преподаватель отвечает: — Не, любители — за дверью. Здесь — только профессионалы

***

Жена посылает мужа на рынок за улитками для косметического ухода за кожей. По дороге муж встречает друзей и на три дня попадает в запой, естественно, не приходя домой. Наконец на третий день вспоминает об улитках, идёт на рынок, покупает улиток и приходит домой. Думает, чтобы сказать жене, почему его так долго не было. Звонит в дверь, жена открывает, он высыпает улиток на пол и, подгоняя их руками, говорит:

- Ну вот, пришли! Заходим, заходим, заходим...

***

- Сидит на берегу обезьянка, косяк курит. Подплывает бобер. Повел носом, подходит к обезьяне:

— Дай разок пыхнуть!

— Ладно, на! Только, чтоб лучше вставило, затянись, ныряй — и по дну на тот берег, там выдохнешь!

Так тот и сделал. Выныривает на том берегу, выдыхает — прямо в морду бегемоту, который там стоит. Бегемот:

— Где взял?

— Да вон, на том берегу обезьяна курит — она угостила.

Бегемот ныряет и бегом по дну на тот берег. Выныривает перед самой обезьяной. Та роняет косяк и кричит:

— Выдыхай, бобер, выдыхай!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Древне-египет-ский бог | | Матема-тический знак | | ... грамм | | Горчич-ный газ | | Спутник Юпитера |
| Житель Среди-земно-морья | | | | | | | | |
| Мелкая мошкара | | Левый приток Оки | | Крупный ... | | | | Глаз |
| | | | | Грызун с ценным мехом | ...-Гранде | | | |
| Штат в США | Самая суть | | Рыба | | Встреч-ный ... | | | |
| | | | | | | | Инстру-мент для сверления | |
| Авто из Швеции | | | | | Русский языковед | Часть ноги | | Предста-вительни-ца народа России |
| Трос вдоль бортов судна | | Садовое растение | | | | | | |
| | | | | Георгий | | | | |
| Ринго ... | | Лимфати-ческий ... | | | | | Галоген | |
| | | | | Часть теннис-ной партии | | | | |
| Прохла-дитель-ный напиток | | Отпрыск неядо-витой змеи | | | | | | |
| | | | | Газиро-ванная ... | | | | |

**Ответы на сканворд № 01**

**По горизонтали:** Пытка. Если. Мера. Стадо. Рига. Слабак. Устав. Амитоз. Дали. «Киа». Румба. Шпик. Молоток. Лев. Порто. Удила. Орт. Хан. Кокос. **По вертикали:** Атлантида. Самосвал. Феррари. Шишак. «Пастушок». Саиб. Гало. Мир. Темп. Злак. Ушко. Бистро. Олух. Леда. Овин. Опак. Рок. Отс.

## Гараскоп на новы 2015 год

**АВЕН.** Прыйшоў час перагледзець свае жыццёвыя мэты і адкінуць тыя, якія сталі недасяжнымі або нецікавымі. Пастаўце перад сабой новыя задачы. І тут важна ўлічыць меркаванне вашых блізкіх. Здаецца, вы гатовыя задумаць рамонт або купіць новую машыну, але будзьце гатовыя, што ўсё гэта будзе звязана з пэўнымі цяжкасцямі. Аднак, у рэшце рэшт, вы атрымаеце жаданы вынік.



**ЦЯЛЕЦ.** На гэтым тыдні вам пажадана абмежаваць актыўнасць. Лішняя мітусня можа саслужыць дрэнную службу. Калі вы будзеце занадта спяшацца, ёсць рызыка здзейсніць памылку. Не эканомце час на сон і адпачынак. Будуючы планы на будучыню, пакіньце ў рэзерве яшчэ некалькі варыянтаў, каб раптоўныя змены не змаглі выбіць вас з каляіны. У канцы тыдня асабліва важны пазітыўны настрой.



**БЛІЗНЯТЫ.** Тыдзень ўдалы для далёкіх паездак. Знаёмствы лёсавызначальныя, хоць адразу можна і не адгадаць, што яны абяцаюць. У пачатку тыдня вас будуць асабліва часта наведваць новыя ідэі. Прыйдзецца сутыкнуцца з праблемай выбару паміж павабнымі і вельмі павабнымі магчымасцямі. Аднак не забывайце, што ад дабра дабра не шукаюць. Звярніцеся за радай да блізкага сябра, які даўно і добра вас ведае. У сярэдзіне тыдня дробныя хатнія справы зоймуць большую частку вашага часу.



**РАК.** Зачыніце вочы, прыслухайцеся да сябе і тады вы адчуеце струмень жыцця. Вам трэба ўвайсці ў гэтую раку, каб яна панесла вас да поспеху. Паспрабуйце не даваць ніякіх абяцанняў, вам будзе складана стрымаць сваё слова. Ахапіць неабсяжнае немагчыма, таму завяршайце тыя справы і праекты, якія вам не па сілах. Зоркі абяцаюць, што знойдуцца арыгінальныя рашэнні для старых праблем.



**ЛЕЎ.** Адна з галоўных задач для вас на гэтым тыдні - усвядоміць, што далёка не ўсё залежыць ад вас. Ёсць іншыя людзі і розныя абставіны, так што планы, магчыма, прыйдзецца карэктаваць. Добры перыяд для духоўных пошукаў і творчасці. У другой палове тыдня пажадана не планаваць сустрэч, лепш заняцца хатнімі справамі і правесці час з сям'ёй. У выхадныя добра рабіць інвестыцыі ў здаровы лад жыцця.



**ПАННА.** Пажадана на гэтым тыдні, не прымаць сур'ёзныя рашэнні і не здзяйсняць неабдуманых учынкаў, так як і тое, і іншае багата сур'ёзнымі наступствамі. Хоць вам захочацца ў чымсьці прызнацца блізкаму чалавеку, лепш пакуль памаўчаць пра гэта. Магчыма, будзе мяняцца ваш погляд на пэўныя матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці і гэта можа станоўча адбіцца на вашым лёсе.



**ВАГІ.** Забаўляйцеся, шпацыруйце, адпачывайце, не сядзіце ў чатырох сценах, ёсць рызыка заграznуць у мітусні і дробных хатніх клопатах. Адпраўляйцеся ў падарожжа ці хаця на шпацыр за горад. Бярыце з сабой лыжы, санкі, канькі - вы выдатна адпачнеце на свежым паветры ў добрай кампаніі сяброў і блізкіх людзей. Выдатны тыдзень для рамантычных планаў, асабліва, калі вы маеце намер змяніць становішча. Той, хто шукае сваю другую палоўку, можа сустрэць яе ў незвычайным месцы.



**СКАРПІЁН.** Некаторы арэол таямнічасці і загадкавасці на гэтым тыдні вам не перашкодзіць, а толькі будзе спрыяць зацікаўленасці навакольных у зносінах з вамі. Знайдзіце час на інтэлектуальны вольны час. Паглядзіце артхаўснае кіно, пачытайце філасофскую кнігу. Канфліктную сітуацыю ў сярэдзіне тыдня пажадана своечасова абысці, давярайце сваёй інтуіцыі.



**СТРАЛЕЦ.** Тыдзень спрыяе падвядзенню некаторых вынікаў. Ня шкадуйце аб згубленых магчымасцях, цалкам верагодна, што вы проста няслушна ацэньваеце сітуацыю. Змяніць мінулае вы не можаце, затое вам пад сілу змяніць да яго сваё стаўленне. Прыслухайцеся да ўнутранага голасу. Надайце больш увагі сям'і.



**КАЗЯРОГ.** Паспрабуйце быць мэтанакіраваным і рашучым. Не сумнявайцеся ў пастаўленых мэтах, інакш іх дакладна не атрымаецца дасягнуць. Аналізуйце свае памылкі і ідзіце наперад. Зараз вы камандны гулец і можаце дапамагчы іншым у выкананні іх планаў. Імкнучыся для іншых, вы і самі шмат чаму навучыцеся і атрымаеце задавальненне. Вырашайце пытанні агульнага парадку, а дэталі хай дапрацоўваюць іншыя. У выхадныя вы будзеце нарасхоп, але толькі ўласны дом падасца вам ціхім і ўтульным.



**ВАДАЛЕЙ.** На гэтым тыдні вы нарэшце зможаце дамагчыся адчувальнага выніку ў тым, у што ўкладвалася так шмат сіл. Энергіі вам хопіць і для рамонту з абнаўленнем інтэр'еру, і для заняткаў спортам, і для актыўнага адпачынку. Аднак не паддавайцеся ні на якія авантуры, будзьце вельмі асцярожныя, ёсць рызыка страціць значна больш, чым набыць. Вадалеям зараз працей ісці ўслед за падзеямі, чым выступаць з ініцыятывай. Новых магчымасцяў і сюрпрызаў дастаткова. Трэба рабіць выбар, прычым, не адкладаючы. Канец тыдня самы ўдалы час.



**РЫБЫ.** На гэтым тыдні надыходзіць спрыяльны перыяд у творчых галінах. Самы час запісацца ў танцавальную студыю, заняцца вакалам, адправіцца на майстар-клас або лекцыю. Другая палова тыдня - дні, калі вы адчуеце, што ў вас усё атрымліваецца, за што б вы ні ўзяліся. У выхадныя варта трохі аддыхацца пасля святочнай мітусні, напрыклад, зладзіць сабе маленькае падарожжа або шпацыр.


ISSN 2077-8023




«Вольнае Глыбокае»
Заснавальнік: Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.
Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб'ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 05.01.. 2015 г. у 20[50]
Наклад 1500 паасобнікаў



Рэдактар: Уладзімір Іванавіч Скрабатун.
Тэлефон/факс: (02156) 2-46-14;
E:mail: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў: 211800, г. Глыбокае, п/с №3



Замова 4

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор фактаў. Спасылкі на «Вольнае Глыбокае» абавязковыя.

Газета набраная і звярстаная на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае».
Надрукаваная ў друкарні ТДА «Знамение», г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14. Ліц. ЛП №02330/85 ад 23.01.2014

Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, пак. 1, г. Глыбокае